PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 12 (2236) Год XLIV Беласток 21 сакавіка 1999 г. Цана 1,20 зл.

Да ўгодкаў 25 Сакавіка

## Нявздзейсненая ідэя

Яўген Міранович

На тэму падзей 25 сакавіка 1918 года беларускія гісторыкі і публіцысты напісалі ўжо шмат праўды і няпраўды. Да беларускай гістарыяграфіі ці публіцыстыкі не ўлічваю вялікай савецкай інтэлектуальнай спадчыны ці сучаснай лукашэнкаўскай прапаганды, таму што мэты дзейнасці гэтых фактараў ніколі не служылі беларускім інтарэсам.

Беларускае пісьменства звяртае перш за ўсё ўвагу на тое, што ў 1918 г. на дарозе да незалежнасці Бацькаўшчыны стала агрэсія суседніх народаў — расіян і палякаў, якія канчаткова ў 1921 г. падзялілі паміж сябе тэрыторыю Беларусі. Палякі, пішучы пра тадышнія беларускія імкненні, звяртаюць увагу на слабасць беларускага руху, спасылаючыся на гістарычную спадчыну Рэчы Паспалітай, апраўдоўваючы сваю палітыку на г.зв. крэсах. Ні савецкая, ні сучасная расійская гістарыяграфія нават не згадваюць пра існаванне незалежніцкай ідэі сярод беларусаў у 1918-1920 гадах. У кантэксце змагання з палякамі бальшавіцкая прапаганда шмат пісала пра вызваленне Чырвонай Арміяй беларускіх сялян і рабочага класа ад прыгнёту польскіх памешчыкаў і капіталістаў.

Варта, аднак, асабліва сёння, шукаць адказ на пытанне чаму беларусам не ўдалося нават прыблізіцца да незалежнасці, калі іншыя народы ў той час, як хаця б літоўцы, латышы, эстонцы, якія былі ў падобным становішчы, стварылі свае дзяржавы, ці ўкраінцы, якія давялі да ведама суседзяў, што будуць змагацца за незалежнасць. Няма сэнсу параўноўваць беларускі рух да палітычнай актыўнасці палякаў, якія ўжо ў канцы XIX стагоддзя стварылі некалькі варыянтаў унутранага парадку будучай незалежнай краіны. Яны нават даволі дакладна акрэслілі, у кожным варыянце, якую палітыку трэба весці ў адносінах да нацыянальных меншасцей, вялікую колькасць якіх прадбачвалі ў межах сваё краіны. Ніхто з дзеячаў польскага нацыянальнага руху не сумняваўся, што канчатковая мэта яго актыўнасці — незалежнасць Польшчы. Розніліся яны паміж сабой толькі поглядамі на тэму метадаў і тактыкі, якія прывялі б да гэтай мэты. Калі ўзніклі спрыяльныя ўмовы, палякі пачалі ствараць структуры ўлады, вайсковыя фарміраванні, не звяртаючы ўвагі на тое, якія рэакцыі гэта выкліча сярод суседзяў. Ідэалагічныя справы зышлі на другі план, першаступеннай стала стварэнне свае дзяржавы.

Калі бліжэй прыглядзецца актыўнасці літоўцаў, то яны таксама ішлі простай дарогай, пры канцы якой бачылі выразную мэту — нацыянальную дзяржаўнасць. Украінцы былі моцна падзелены. Тыя, якіх выхавала аўстрыйская імперыя, ведалі не горш чым палякі ці чэхі, у чым заключа-

[працяг ☞ ?]



У Гайнаўцы на працягу аднаго дня вада ўварвалася на панадворкі і заліла будынкі

# Перадвеснавая паводка

Аляксей Мароз

**— Куры патапіліся, дзень і ноч вада стаяла ў хаце, а мне прапанавалі, каб я ўсё гэта пакінуў і ў гатэль пайшоў начаваць, — кажа Лукаш Якубюк, які не захацеў эвакуіравацца. — А я там нерваваўся б, не ведаючы, ці яшчэ больш вады не ўварвалася, ці маёмасці хто не вынес...**

Ужо ранiцай 2 сакавіка 1999 года хутка стаў павышацца ўзровень вады ў рэчцы Лясной, якая плыве праз горад. Зямля была яшчэ змерзлай ды ляжаў снег, а ноччу доўга ішоў дождж і амаль уся вада сплыла ў рэчку, напаўняючы яе па берагі. Там дзе былі слабыя ўмацаванні берагоў, вада пачала разлівацца. Днём хутка пачаў раставаць снег і з палёў таксама паплыла вада і падышла пад горад.

### Ход падзей

— Калі вада пачала пераліваццa праз вуліцу Падпольную і выступаць з рэчкі Лясной, звязаліся мы з вайсковым падраздзяленнем у Нязнаным Бары і атрымалі адказ, што жаўнеры дапамогуць нам забяспечыць дамы, — кажа намеснік бурмістра Гайнаўкі Міраслаў Мордань. — Паведамілі мы таксама Гайнаўскую пажарную ахову і выслалі сваіх працаўнікоў з фольгавымі мяшкамі на месцы падтапленняў. Гарадскім транспартам пачалі вазіць пясок. Ужо з раніцы вада пачала заліваць панадворкі каля вуліцы Бельскай і там не было ўжо магчымасці забяспечыць берагі. Нашы людзі прапанавалі жыхарам эвакуацыю, але ніхто не хацеў пакінуць сваю маёмасць. Спачатку каля пяцідзесяці жаўнераў разам з нашымі працаўнікамі рабілі ўмацаванні на вуліцах Падпольнай і Надбжэжнай. Адначасна жыхары, пажарнікі і працаўнікі гарадской аховы намагаліся стрымаць ваду каля вуліц Спадовай і Сламянай, але там дамы расплажаны над самой рэчкай.

Ужо пад вечар, калі пахаладзела, узровень вады панізіўся. Дапамог яшчэ начны прымаразак, які стрымаў расставанне снегу на палях і ў лесе. Ноччу і раніцай вада сплывала ўжо і з тых панадворкаў, якія заліла мінулага дня. Пажарнікі і працаўнікі гарадской аховы выцягвалі голле і ўсялякія прадметы, якія спыніліся каля мастоў, а жыхары пачыналі прыводзіць у парадак месцы вакол сваіх дамоў і гаспадарчых будынкаў.

### Смутак і жаль

Калі я наведаў Лукаша Якубюка на вуліцы Бельскай, на плоце і панадворку сушыліся палавікі і іншыя прадметы. Пажылы адзінокі мужчына наводзіў у доме парадак.

— Гэта ўжо трэцяя паводка ад 1958 года, калі купіў я гэтую хату. Даўней тут, дзе цяпер квартал Мазуры і шаша, усюды палі былі і вада магла спакойна разлівацца. Цяпер, калі ўсё забудавалі, мой панадворак апынуўся найніжэй, а ніякага ўмацавання на беразе няма, — паказвае рукой Лукаш Якубюк. — Калі б з майго боку быў такі насып, як на супрацьлеглым беразе, што ахоўвае школу, я ўвогуле не пацярпеў бы. Першая паводка была ў пачатку сямідзесятых гадоў, а другая, тры гады таму — яшчэ горшая была! Тады і ў хаце больш вады было і свіння ў хлеў-

[працяг ☞ 3]

## Была школа...

23 лютага 1999 года ў вёсцы Чаромха ўспыхнуў пажар. Згарэла школа. Пра пажар па-рознаму зараз гавораць. Адны шкадуюць, разумеецца, а другія кажуць, што так пэўна мусіла быць.

[болей ☞ 3]

## Апазіцыя ўкрала грошы...

Да такой думкі апошнім часам схіляе людзей афіцыйная прапаганда на Беларусі.

[шырэй ☞ 2]

## Які герб, які сцяг?

У выніку рэферэндуму 1995 года герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг апынуліся ў палітычным падполлі. На Беласточчыне ўсё часцей у залах адведзеных для навучання беларускай мовы паяўляюцца насценныя газеты з чырвона-зялёным сцяжком ды савецкім гербам. Некаторыя настаўнікі памяшчаюць два гербы і два сцягі, тлумачачы незалежніцкія як гістарычныя і афіцыйныя як рэальныя на сённяшні дзень.

[дылема ☞ 4]

## Шлях у Беларусь

— Мы ў „Ніве" рабілі тое, што было ў рамках магчымасцей. Вядома, не ўсё было выкарыстана. Нас было мала, грошай — таксама. Цяжка было заангажаваць нейкага спецыяліста звонку. Не ўсё можна было пісаць: цэнзура. Цяпер значна лягчэй.

[інтэрв'ю з Г. Валкавыцкім ☞ 5]

## Памяць пра прэзідэнта БНР

Спадарыня Кіра Фэнц успамінала вельмі скромныя ўмовы, у якіх жыў ейны дзядзька Васіль Захарка ў Модржанах. Гэта былі два пакойчыкі і кухня. Захарка, каб пражыць, працаваў фізічна на цукровай фабрыцы. 11 жніўня 1937 года памерла яго жонка Пелагея. Кіру бацька забраў дахаты на Гродзеншчыну. Вельмі тужыў прэзідэнт БНР па жонцы і Кіры.

[успамін ☞ 10]

## Лепшыя і горшыя помнікі

Хацелася б мне таксама, каб пасол Мазалеўскі праявіў ініцыятыву і ў справе помніка на брацкай магіле вазакоў у Бельску. Прыпомню, што ваяводскія адміністрацыйныя ўлады не дазваляюць Камітэту сем'яў памардаваных вазакоў устанавіць помнік на магіле беларускіх фурманоў праваслаўнага веравызнання, якія былі забіты ў 1946 годзе польскім падпольным атрадам.

[меркаванне ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Беларускіх школ у Гродне больш няма

Толькі 86 гродзенскіх дзяцей у гэтым годзе пачалі вучобу ў школе на беларускай мове. Гэтыя лічбы былі прыведзены старшынёй Гродзенскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы прафесарам Аляксеем Пяткевічам у яго справаздачным дакладзе на канферэнцыі гродзенскага ТБМ.

Канферэнцыя адбылася 9 сакавіка. Яна праводзілася з мэтай пераабраць кіраўніцтва арганізацыі і вылучыць дэлегатаў на ўсебеларускі з'езд ТБМ, які павінен адбыцца ў Мінску ў сярэдзіне красавіка.

Як адзначыў прафесар Пяткевіч, у апошнія гады сябры таварыства працавалі ў вельмі неспрыяльных умовах. Усе ініцыятывы ТБМ ігнараваліся ўладнымі структурамі. Больш таго, з боку дзяржаўных чыноўнікаў рабіліся спробы наогул спыніць дзейнасць таварыства. Па словах Аляксея Пяткевіча, адной з задач, якую прыходзілася вырашаць ТБМ, з'яўляецца захаванне самой арганізацыі. У адрозненні ад многіх раёнаў Беларусі, дзе суполкі таварыства ўжо практычна не існуюць, Гродзенская арганізацыя ТБМ працягвае працаваць. Разам з іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі горада, суполка прымае ўдзел у розных мерапрыемствах, была ініцыятарам некаторых з іх. За гэта старшыня арганізацыі неаднаразова чуў папрокі, што ТБМ займаецца палітычнай дзейнасцю.

— Але справа мовы сёння ня можа трактавацца па-за палітычнымі працэсамі, якія адбываюцца ў краіне, — кажа Аляксей Пяткевіч. — Той, хто лічыць сябе абаронцам мовы, не можа быць па-за палітыкай.

Тое, што заняпад беларускай мовы ў Беларусі — вынік палітыкі кіраўніцтва дзяржавы падцвярджаецца наступнымі фактамі.

Калі да 1994 года большасць школ у Гродне лічыліся беларускімі, а некаторыя былі імі на самай справе, зараз такіх навучальных установ у горадзе больш няма. Летам пазамінулага года сябры ТБМ хадзілі па кватэрах бацькоў першакласнікаў і агітавалі пісаць заявы, каб дзеці вучыліся па-беларуску. Многія пагаджаліся і было спадзяванне, што ў школах Гродна захаваюцца хаця б беларускія класы. Але, пасля адпаведнай працы школьнай адміністрацыі, да верасня большасць бацькоў перапісалі заяву на рускую мову. У гэтым навучальным годзе толькі ў дзвюх школах ёсць першакласнікі, якія вучацца на роднай мове: у школе № 21 — дваццаць чатыры вучні і ў школе № 32 — сорак пяць. У апошняй яшчэ 17 дзетак вучацца па-беларуску ў падрыхтоўчым (так званым „нулявым") класе.

Не лепшая сітуацыя ў старэйшых класах, якія калісьці пачыналі вучыцца на роднай мове. Іх становіцца ўсё менш. Не дапамагаюць нават неардынарныя меры. У 1997 годзе гродзенец Юрась Мацко падаў у суд на адміністрацыю школы, у якой вучылася яго дачка за тое, што дзяўчынку пазбавілі магчымасці атрымоўваць веды на роднай мове. Вынікам стаў прысуд, з якога вынікала, што ў беларускім горадзе ўмоваў для навучання па-беларуску дачкі спадара Мацко няма.

**Зміцер Кісель**

## Антыфашысту дасталося ад „аднафронтаўцаў"

Справа барацьбы гродзенскай моладзі з рускім фашызмам (пра што раней пісалася ў „Ніве") 5 сакавіка атрымала нечаканы працяг.

Вечарам гэтага дня ў штаб-кватэры БНФ сабраўся маладзёжны антыфашысцкі камітэт. У яго склад у асноўным уваходзяць маладафронтаўцы і анархісты. Пасля пасяджэння некалькі дзесяткаў хлопцаў выйшлі ў цэнтр горада на „антыфашысцкі патруль". Але на Савецкай вуліцы іх чакаў атрад міліцыі асобага прызначэння (АМАП). З двух бакоў моладзь была акружана міліцэйскім машынамі. Амапаўцы кінуліся хапаць хлопцаў і запіхваць у „варанкі". Усяго было затрымана і дастаўлена ў раённы аддзел міліцыі 38 чалавек.

Не тлумачачы прычыны затрымання, ва ўсіх перапісалі прозвішчы і знялі на відэастужку. Затым на размову з моладдзю прыйшоў сам начальнік Ленінскага раённага аддзела міліцыі палкоўнік Станіслаў Васілеўскі. Ён сказаў, што міліцыя выступае з затрыманымі адным фронтам супраць фашызму і, калі толькі праявы „карычневай чумы" з'явяцца ў Гродне, ахоўнікі правапарадку самі іх знішчаць.

Пратрымаўшы тры гадзіны, хлопцаў адпусцілі, але не ўсіх. У той час, калі палкоўнік Васілеўскі казаў пра „адзіны фронт", яго падначаленыя складалі пратаколы на Андрэя Пачобута. Ён быў схоплены разам з астатнімі, але на сваю бяду запытаўся ў амапаўцаў, чаму яны іх затрымліваюць. Гэта вельмі абурыла міліцыянераў. На Андрэя было складзена аж два пратаколы. Згодна з адным ён на просьбу амапаўцаў паказаць дакументы адказаў нецэнзурнай лаянкай і аказаў супраціў міліцыі. У другім адпаведным дакуменце сцвярджалася, што Андрэй удзельнічаў у несанкцыяваным шэсці, якое суправаджалася расклейваннем лістовак. Хлопец выказаў абурэнне такім абвінавачваннем і ў знак пратэсту абвясціў сухую галадоўку.

Трымаць яе Андрэю прыйшлося трое сутак, бо столькі часу ён прасядзеў у камеры папярэдняга затрымання разам з п'яніцамі і хуліганамі. Толькі 9 сакавіка Пачобута прывезлі ў суд. Там яго чакалі шматлікія сябры, якія прыйшлі сведчыць, што міліцыянеры ў пратаколах напісалі хлусню. Але ў гэты дзень суд не адбыўся, бо не з'явіліся два амапаўцы, што павінны былі выступаць сведкамі.

Суддзя Яўген Казяк вызваліў Андрэя і перанёс суд на раніцу наступнага дня. Але і назаўтра амапаўцы не прыйшлі. Толькі пасля таго, як Пачобут паведаміў пра гэта намесніку палкоўніка Васілеўскага, маёру Івану Шмакаву і той загадаў міліцыянерам прыбыць у суд, адзін з іх сяржант Гусеў нарэшце з'явіўся. Гэта ён сцвярджаў у пратаколе быццам бы Андрэй аблаяў амапаўцаў матам. Але сведкі падзей казалі, што гэта няпраўда. У выніку Яўген Казяк апраўдаў Пачобута. Аднак засталося незразумелым, чаму Андрэя тры дні трымалі за кратамі.

**(зк)**

## Апазіцыя ўкрала грошы ў хворых дзяцей

Да такой думкі апошнім часам схіляе людзей афіцыйная прапаганда на Беларусі. Усё пачалося з першых дзён сакавіка, калі Аляксандр Лукашэнка пачаў сваю чарговую „бітву", на гэты раз за вяртанне валютных крэдытаў. Па афіцыйных дадзеных агульная сума няверунтых у беларускія банкі крэдытаў складае 130 мільёнаў долараў ЗША і 120 мільёнаў нямецкіх марак. Не паглыбляючыся ў падрабязнасці прэзідэнт заявіў, што грошы скралі тыя, хто зараз хоча захапіць уладу. Дзяржаўныя масмедыя адразу падхапілі гэту думку.

У адной з праграм беларускага тэлебачанне сцвярджалася, што сыны Станіслава Багданкевіча, з дапамогай бацькі, скралі ў дзяржавы 3,6 мільёна долараў. Дасталося і Міхаілу Чыгіру, які быццам бы падчас знаходжання на пасадзе дырэктара аднаго з банкаў незаконна і небескарысліва выдаваў шматмільённыя крэдыты. Здзіўляе толькі, як пасля гэтага пільны Аляксандр Лукашэнка прызначыў яго прэм'ер-міністрам, а Багданкевіча — старшынёй Нацбанка. Але хто пра тое зараз помніць?

Станіслаў Багданкевіч заявіў, што падасць у суд на журналістаў дзяржаўных СМІ, якія яго абылгалі. Аднак з экранаў тэлевізараў на апазіцыянераў выліваецца ўсё больш бруду. Дастаецца не толькі былым банкірам. 10 сакавіка ў праграме „Навіны" каля дзесяці хвілін расказвалася пра тое, колькі стратаў панёс просты народ з-за няверунтых крэдытаў. Відэасюжэты пра недабудаваныя бальніцы і школы перамешваліся кадрамі з мітынгаў і пасяджэнняў, на якіх выступалі Зянон Пазьняк, Юры Хадыка, Лявон Баршчэўскі і іншыя апазіцыянеры, якія ніколі ў жыцці не мелі нічога агульнага з банкаўскімі крэдытамі. Але ці гэта важна? Галоўнае, каб у людзей сэрца замірала ад жалю, калі з экрана на іх глядзелі вочы паміраючых ад недахопу лекаў чарнобыльскіх дзяцей, і сціскаліся ад злосці кулакі, калі пасля гэтага гледачы назіралі, як Ганчар размаўляе па сотавым тэлефоне. Напрыканцы былі паказаны турэмныя дзверы і каментатар задаў рытарычнае пытанне: „Дзе месца такім людзям? Пры ўладзе, ці ў турме?".

**(зк)**

## Начальства хоча ў дэпутаты

Пакуль беларуская апазіцыя рыхтуецца да выбараў прэзідэнта, якія не прызнае афіцыйнае кіраўніцтва краіны, уладныя структуры займаюцца передвыбарчай кампаніяй выбараў у мясцовыя саветы, якія ў сваю чаргу байкатуе апазіцыя.

Прэзідэнт Лукашэнка прызначыў выбары ў органы мясцовага самакіравання на 4 красавіка, калі праваслаўныя будуць святкаваць Вербную нядзелю, а каталікі — Вялікдзень. Як сказала старшыня прэзідэнцкай Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына, „объединим государственный праздник с рэлигиозным".

На Гродзеншчыне самы актыўны ўдзел у „аб'яднаным свяце" вырашылі прыняць кіраўнікі прадпрыемстваў, старшыні калгасаў і дзяржаўныя чыноўнікі. Менавіта яны складаюць пераважную большасць сярод кандыдатаў у дэпутаты. Прычым многія будуць „змагацца" за галасы выбаршчыкаў у адзіночку. Так у 39-ці з 60-ці выбарчых акругаў у абласны савет прэтэндуюць толькі па адным кандыдаце. Сярод іх старшыня адміністрацыі Ленінскага раёна Гродна, намеснік старшыні аблвыканкама, начальнік упраўлення аховы здароўя аблвыканкама, рэктар універсітэта, старшыня абласнога аб'яднання афіцыйных прафсаюзаў і г.д.

Уладам вельмі хочацца прадставіць будучыя выбары як дэмакратычныя. Ва ўсіх справаздачах мясцовых выбарчых камісій падкрэсліваецца, што ў выбарах удзельнічаюць прадстаўнікі палітычных партый. Сапраўды, на Гродзеншчыне ў спісы кандыдатаў унесены члены шасці партый. Выбаршчыкі, якія прыйдуць на выбарчыя ўчасткі, упершыню даведаюцца, што ў Прынямонні, акрамя двух камуністычных партый, ёсць такія экзатычныя, як ліберальна-дэмакратычная, народная згода, здароўвага сэнсу і славянскі сабор „Белая Русь".

Напэўна таму, што гэтыя нешматлікія партыі існуюць пераважна ў Гродне, толькі ў пяці з сарака гарадскіх выбарчых акругах ёсць па адным кандыдаце. Ніхто не стаў канкурэнтам старшыні былога гарсавета, галоўнаму ўрачу абласной бальніцы, камісару гарваенкамата, намесніку начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкама і рэктару сельгасінстытута. На іншых участках прыхільнікі палітыкі прэзідэнта будуць змагацца адзін з адным.

**(зк)**

## Навіны з Брэста

Напярэдадні свята беларускай міліцыі, якое адзначаецца **4 сакавіка ў Брэст прыехаў вядомы на Беларусі рок-гурт NRM**. Запрошаны дзвюма маладзёжнымі арганізацыямі Брэста — філіялам Маладога фронту і абласной арганізацыяй Маладзік, музыкі мелі выступаць на сцэне клуба „Прагрэс" разам з гуртамі „Млын" з Мінска і „Сад" з Брэста. Аднак, як і чакалі песімісты, NRM і на гэты раз выехаў з Брэста не адыграўшы сваіх знакамітых „Партызан", „Паветраная шара" і „Ла-ла-ла". Перапалоханая дырэктарка клуба — Наталля Фядотава, паведаміла што не хоча мець праблем з мясцовымі ўладамі і адмовіла моладзі ў арандаванай напярэдадні зале. Другая зала — кінатэатра „1 Мая" — таксама стала недасягальнай арганізатарам. Ужо падчас першых гукаў музыкі ў зале з'явіліся шасцёра маладых міліцыянераў, якія нічога не разумеючы паведамілі, што ім загадана выкінуць з залы музыкаў NRM. Хто ж загадаў? Спадар У. Сусько — загадчык аддзела культуры гарвыканкама, які настойліва запатрабаваў дасланаць атрад міліцыі ў кінатэатр. Зразумела, што падрыхтаваныя для арышту беларускамоўнай рок-моладзі міліцыянеры і аўтобусы чакалі сваіх „пасажыраў" па адрасе клуба „Прагрэс".

Не здолеўшы хутка змяніць дыслакацыю асноўных сілаў абароны краіны ад іншадумцаў і беларусаў, кіраўніцтва даслала ў кінатэатр шасцёра нованабраных міліцыянераў, якія, маючы схільнасць да рок-музыкі, самі не разумелі — што можа здарыцца, калі музыкі NRM заспяваюць на беларускай мове. Відавочна, што гэтыя міліцыянеры пакуль не бралі ўдзел у акцыях „зачысткі" плошчаў у беларускай сталіцы.

Забарона на канцэрт яшчэ больш прывабіла моладзь да творчасці гурту і прыцягнула ўвагу да асобаў музыкаў. У памяшканні рэсурснага цэнтра грамадскіх арганізацый Брэсцкай вобласці „Аб'яднаны шлях" на працягу шасці гадзін саліст гурта размаўлялі з моладдзю аб лёсах нашай Бацькаўшчыны і нашай адказнасці за яе. Лявон Вольскі падзякаваў арганізатарам і слухачам ды папрасіў рыхтавацца да новай сустрэчы ў Брэсце.

**Старшыня калгаса ў вёсцы Турны** закупіў няякасныя селядцы на корм свінням. Гэты набытак стаў вельмі даспадобы калгаснікам і яны добра разумеючы, што калі калгаснае — значыць агульнае, сталі паціху разносіць корм да сваіх хатаў і частавацца ім на вячэру. Свінні не былі абражаны — бо цалкам не ядуць селядцоў.

Старшыня калгаса зразумеўшы, што крадзяжу не спыніць, прыняў саламонава рашэнне: пачаў прадаваць селядцы па 50 тысяч рублёў. Людзі набывалі сапсаваныя селядцы і вёдрамі, і бочкамі. А чаму не? Вось толькі незразумела ці гэты хітры старшыня абыходзіць бюракратычныя перашкоды, звязаныя з атрыманнем ліцэнзій, даведак ад санэпідэмслужбаў, ці гэта так сяляне збяднелі, што гатовы кідацца на ўсякую няякасную прадукцыю.

**Брыгіта Хансен**

# Перадвеснавая паводка


*Умацаванні рабілі жаўнеры.*

[1 ☞ працяг]
чыку ўтапілася. Але ад гэтага часу нічога на беразе не зрабілі, а што ж я, стары, зраблю тут адзін!

Адам Врублеўскі, які па-суседску наймае кватэру, гаворыць, што для яго сям'і таксама прапанавалі эвакуіравацца ў гатэль, але ён не хацеў пакінуць маёмасці ды назіраў за паводкай з хаты.

— Вада заліла ўвесь панадворак, хлеўчык з дровамі і прыладамі ды пачала ўлівацца ў кватэру, але затрымалася ў сенцах, бо падлогі ў пакоях крыху вышэй, — расказвае Адам Врублеўскі. — Тыя, якія жылі тут перад намі, расказвалі, што ў час апошняй паводкі вылазілі акном, бо вада ўварвалася дзвярыма і заліла кватэру.

Панадворак спадарства Леўчукоў, якія таксама жывуць па вуліцы Бельскай, распаложаны найбліжэй рэчкі.

— Вось паглядзіце на гэтую чорную мазь, якую пакінула вада пасля паводкі. Усё гэта з прадпрыемства, якое раней мы называлі „Хімічнай". Чаму не забароняць выпускаць гэтае рэчыва ў рэчку?! — хвалюецца Ян Ляўчук. — Няма ніякага забеспячэння ад рэчкі, заліло мне ўвесь панадворак і гаспадарчы будынак. Пасля апошняй паводкі я крыху хату падняў і падмурак павысіў, то цяпер у сярэдзіну вада не ўвайшла. У гаспадарчым будынку і дровы, і розныя прадметы замоклі. Страхоўка ў мяне ёсць, але ці заплацяць хаця нешта?

На вуліцы Надбжэжнай умацаванні з пяску спынілі ваду перад панадворкамі.

— На гэты раз зямля замерзлая была і вада ў каналізацыю не ўступіла, бо калі апошні раз разлілася рэчка, вада ўварвалася ў трубы і заліла мне падвал. Тут у нас трубы ў мосце крыху замалыя і калі больш вады, яна не паспявае пераліваццa і разліваецца на вуліцу, — кажа Уладзімір Алексяюк.

**Што рабіць?**

— Каб пазбегнуць такіх паводак у будучыні, трэба было б ачысціць рэчку і паглыбіць яе, перабудаваць тыя месцы, якія стрымліваюць ваду, а ў тых месцах, дзе разліваецца рэчка, зрабіць насыпы і абсеваць іх травой, — прапануе інжынер Юрый Алексяюк з Праектнага бюро санітарнай інжынерыі.

— У многіх месцах, дзе раней выступала вада, цяпер павышаны берагі ды стаяць там новыя будынкі. Рэчка выліваецца ў тых месцах, дзе найніжэй і таму залівае тых, якія раней спакойна спалі, — лічыць намеснік бурмістра Міраслаў Мордань. — Трэба зрабіць экспертызу і тады падумаем, ці трэба паглыбіць рэчку, ці перабудаваць нейкі мост, ці зрабіць насып, а можа дзесьці павысіць вуліцу. Аднак усе гэтыя інвестыцыі не могуць гарантаваць, што рэчка ў будучыні не разліецца. Толькі будова вялікага вадасховішча вырашыла б праблему, але гэта можна рэалізаваць толькі ў маштабе ваяводства.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Была школа...

23 лютага 1999 года ў вёсцы Чаромсе ўспыхнуў пажар. Згарэла школа. У тушэнні стыхіі ўдзельнічала пяць пажарных каманд. Дапамога прыйшла ў свой час. Будынак выратавалі. Згарэлі ўнутраныя сценкі, застаўся адзін каркас. Страхавчая камісія ацаніла знішчэнне будынка на 48 працэнтаў яго вартасці.

**Што было прычынай пажару?**

— пытаю дырэктара Гміннай школы ў Чаромсе Мікалая Міхалюка.

— Калі верыць дакументам, самазапаленне ад электраўстаноўкі было немагчымае, бо 12 снежня 1996 года электраўстаноўка правяралася спецыялістам. Ніякіх заган ці недахопаў ён не заўважыў. Такія праверкі праводзяцца кожныя пяць гадоў.

— Ці можна гаварыць тады пра наўмыснае падпаленне?

— Нельга такога выключыць, хоць, праўду сказаўшы, дагэтуль не атрымаў я афіцыйны пратакол у той справе ад пажарнай стражы. Ды факты гавораць самі за сябе, — кажа дырэктар Міхалюк. — Пажар ўзнік у кладоўцы. Туды не заходзілі ні настаўніцы, ні прыбіральшчыца. Яна больш часу праводзіла на кухні. У кладоўцы знаходзілася старая мэбля, непрыгодная для школы. Пажар не спрычыніў лішніх праблемаў ні для настаўнікаў, ні для вучняў. Дзеткі, якія вучацца ў школе ў вёсцы Чаромсе прывозяцца, як і іншыя, гмінным транспартам. Займаюцца імі тыя ж, што і раней, настаўніцы.

— Як сябе адчуваюць малечы ў новым асяроддзі?

— Як і даўней. Заняткі для іх пачынаюцца ў $12^{30}$, а канчаюцца ў $16^{05}$. У гэты час якраз звальняюцца дзве залы, дык праблемаў з памяшканнямі няма. Ды і намнога менш тады маем вучняў у школе, і зборышча меншае.

**Гісторыя школы**

У дырэктара Міхалюка захавалася старая школьная хроніка. Паводле яе запісаў, будынак гэтай школы быў перавезены ў 1943 або 1944 гадах з Кляшчэляў. Даўней у ім змяшчалася бальніца або, як іншыя кажуць, санаторыя для яўрэяў. У міжваенны час навучанне ў вёсцы праводзілася ў прыватных кватэрах. Аднак сяляне рашылі пабудаваць сабе школу ў вёсцы. Тадышні солтыс Якім Шатыловіч звярнуўся з прашэннем да нямецкіх улад, каб чарамшукам дазволілі пачаць пабудову сваёй школы. Пасля атрымання згоды паехалі яны ў Кляшчэлі, разабралі драўляны будынак і перавезлі.

У 1947 годзе зрабілі капітальны рамонт будынка і пачалося навучанне ў сямі аддзяленнях.

На працягу апошніх пятнаццаці гадоў школа ў вёсцы Чаромсе лічылася трохкласным філіялам гміннай школы ў Чаромсе. Так было да апошніх дзён яе існавання.

Пра пажар па-рознаму зараз гавораць. Адны шкадуюць, разумеецца, а іншыя кажуць, што так пэўна мусіла быць.

А што зрабіць з пагарэлішчам? Ці чарамшукі адрамантуюць будынак і выкарыстаюць яго для грамадскай справы?

**Уладзімір Сідарук**

# Войтава памылка

З 18 студзеня па 13 лютага 1999 г. у Арлянскай гміне адбыліся вясковыя сходы, падчас якіх праводзіліся выбары солтысаў. У гміне 22 салэцтвы, але выбраных было толькі 20 солтысаў. У Рудутах стары солтыс адмовіўся ад сваёй пасады ды не знайшлося ніводнага кандыдата на гэты пост. У Дыдулях абодва кандыдаты ў галасаванні набралі аднолькавую колькасць галасоў; дадатковыя выбары не адбыліся, бо сяляне разышліся зараз пасля першага галасавання. У ліку выбраных солтысаў 7 чалавек выконваюць гэту функцыю ўпершыню. Таксама ўпершыню ў мясцовай гісторыі солтысам стала жанчына — Анна Кубай з Міклашоў.

Найбольш жыхароў прыйшло на сход у Орлі — 101 асоба. Людзі сышліся не толькі таму, каб выбраць солтыса, але каб сустрэцца з войтам гміны Міхалам Іванчуком, пачуць з яго вуснаў адказы на пастаўленыя яму пытанні.

Сход пачаўся са справаздачы Гміннай водной суполкі „Арлянка", якая з 1995 г. вядзе самастойную дзейнасць. Паводле справаздачы кіраўніка суполкі Мікалая Главацкага, арганізацыя пачала 1998 год дадатным сальдам у памеры 15 тыс. зл. Даход суполкі ў мінулым годзе склаў 71 094 зл. (з улікам ваяводскай датацыі — 10 160 зл.), а сальда на канец года — 8 874 зл. У мінулым годзе сіламі суполкі было абкошаных 7 536 м меліярацыйных равоў, 1 820 м равоў ачышчана ад шламу, праведзены быў рамонт адной водапрапускной трубы і ліквідавана дзевяць аварый.

Затым са справаздачай выступіў войт гміны Міхал Іванчук. Адказы на пытанні жыхароў мястэчка былі запланаваны пасля выбараў солтыса. А кандыдатаў на гэтую пасаду было трох: Яўгенія Тхарэўская, Вальдэмар Кубаеўскі і Фёдар Нядзведзь. Найбольш галасоў (58) набраў і паўторна стаў солтысам Фёдар Нядзведзь.

Пасля кароткага перапынку пачалася размова войта з народам. Пётр Назарэвіч крытыкаваў гмінныя ўлады за тое, што не дбаюць пра чысціню ў мястэчку, а Лявон Мураўскі паставіў войту ў прыклад настаяцеля праваслаўнага прыхода, які за год добраўпарадкаваў прызначаны яму пляц, калі гміна на працягу васьмі гадоў не можа навесці парадку ў парку. Католікі патрабавалі выдзеліць ім пляц пад капліцу і гэты пастулат падтрымалі ўсе сабраныя.

Ежы Шыманскі, шэф фірмы „Фансгрот", пра гмінную ахову здароўя сказаў наступнае: „Наша пані лекар, якая з'яўляецца раднай Гміннай рады і дзяжурыць у шпіталі ў Бельску, на практыцы працуе 2-3 гадзіны ў дзень і да яе выстройваюцца доўгія чэргі хворых. У такой сітуацыі аднаго лекара на гміну мала". Войт адразу адказаў, што ахова здароўя падлягае бельскаму ЗОЗу.

Радны Аляксандр Шыманскі заўважыў, што ў апошніх гадах войт для самой Орлі зрабіў надта мала — толькі 150 м асфальту, хаця падаткі жыхароў Орлі складаюць палову гміннага бюджэту. Абураўся ён таксама, што войт на вясковых сходах зневажае арлянскіх радных.

Войт стаў адказваць, але сказанае ім не задаволіла сабраных. Патрабавалі яны канкрэтных тлумачэнняў, ставілі чарговыя закіды ў адрас войта: купля аўтамашыны насуперак пастановы рады, нелегальнае здабыванне жвіру, скандал вакол ачышчальні сцёкаў... Збіты з панталыку войт забыў пытанні, на якія трэба было яму адказваць. Урэшце збянтэжаны вымавіў: „Сапраўды, зрабіў я адну памылку і непатрэбна згадзіўся выставіць сваю кандыдатуру..."

**Міхал Мінцэвіч**

# Сумная рэчаіснасць

Панядзелак, 8 сакавіка. На скупцы жывёлы ў Кляшчэлях кучка сялян. На пляцоўцы, каля агароджы стаіць „Жук" з сядлецкай рэгістрацыяй. Завязваю размову са знаёмымі чарамшукамі.

— Па колькі плацілі ў апошні панядзелак?

— А хто яго ведае, — чуецца нечый голас. — Залеўскі прапануе па 2,60-2,70 зл.

— У чаргу трэба запісвацца, — прыбаўляе іншы.

— Абдураваюць нас як хочуць, — пачынае Зялінка з Сухавольцаў. — Дзе гэтыя 3,20 за кілаграм жывой вагі, што нам абяцалі? — Прыватнікам кішэні набіваюць, такім як гэты, што прыехаў „Жуком". Такія хутка дамаўляюцца з класіфікатарамі на самую малую цану, а калі чалавек адказваецца прадаць класіфікатару, тыя, прыбаўляючы нейкі грош, ад нас забіраюць. І нажываюцца.

Прыехаў класіфікатар, які вядзе скупку для Беластоцкага мясакамбіната:

— Бяру толькі на цёплы ўбой. У нас можна атрымаць найбольш 4,40 за кілаграм пасля ўбою, а можна атрымаць і па 2,20 зл. Гэта будзе залежаць выключна ад якасці мяса.

За ялавічыну дзяржаўны чыноўнік прапанаваў па 2,80-2,90 зл. за кілаграм жывой вагі. І разбярыся, чалавеча, у гэтай эканоміцы! Адно пэўнае — заўсёды нас абдурвалі, але зараз шкуру лупяць як ніколі. Гэта сумная рэчаіснасць. **(ус)**

# У Бельску скасавалі камісіі

Бельская кааліцыя нарабіла многа шуму, калі двух яе членаў, Васіля Ляшчынскага і Юрыя Іванчука, не дапусцілі да працы ў пастаянных камісіях Павятовай рады („У Бельску падчысцілі камісіі", „Ніва" № 8 (2232) ад 21.02. 1999 г.). Пратэст у гэтай справе быў дасланы, між іншым, падляшскаму ваяводу. Звярталася ўвага на тое, што выбары ў камісіі былі тайныя, а гэта супярэчыць статуту павятовага самаўрада. У ваяводскай управе далучыліся да поглядаў апазіцыі. На рукі старшыні Павятовай рады Бельска Бажэны Гратовіч было дасланае рашэнне аб неправамоцнасці выбараў камісій і касацыі іх вынікаў.

Кіручая Бельскім паветам кааліцыя *AWS — Prawica Samorządowa „Jedność"* мае цяпер два выхады: або змірыцца з рашэннем ваяводы і нанава выбраць камісіі, або падаць скаргу ў Галоўны адміністрацыйны суд. У другім выпадку, аднак, давядзецца чакаць рашэння больш-менш паўгода. Камісіі на працягу гэтага часу збірацца не могуць. А радным іхнія дыеты будуць працякаць каля носа. **М. В.**

# Прэстыжная школа

Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім апынуўся на сёмым месцы ў агульнапольскім рэйтынгу сярэдніх школ. Рэйтынг правёў варшаўскі месячнік „Perspektywy" (№ 3/1999), які займаецца пытаннямі адукацыі. Ацэнка датычыла ўдзелу ў прадметных алімпіядах у навучальным годзе 1997/98. Рэдакцыя разглядала колькі вучняў у школе, якія адсотак прыняў удзел у алімпіядах, колькі з іх выйшла ў фінал, колькі стала лаўрэатамі.

На 455 вучняў Бельскага беларускага ліцэя ў мінулым годзе, 11 асоб сталі фіналістамі цэнтральных алімпіяд па беларускай і рускай мовах, біялогіі, геаграфіі, наўталогіі ды ведах аб правах чалавека. Чатыры асобы сталі лаўрэатамі: Юрка Грыгарук, Івона Хмур і Іаанна Якубовіч — алімпіяды па беларускай мове ды Тамаш Сахарчук — алімпіяды „Веды пра Польшчу і сучасны свет". **(ак)**

# Які герб, які сцяг?




У выніку рэферэндуму ад 16 мая 1995 года беларускія сімвалы, герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг, апынуліся ў палітычным падполлі. У гэтай сітуацыі зноў павялічылася роля беларускай эміграцыі, каб, як раней у складаныя часы гісторыі, сцерагчы ідэалы 25 Сакавіка.

Тым часам на Беласточчыне пашыраецца папулярызацыя сённяшніх афіцыйных сімвалаў Рэспублікі Беларусь. Пачатак з'яве дало ГП БГКТ, з будынка якога (вул. Варшаўская, 11) у таемных абставінах знік герб Пагоня. За прыкладам арганізацыі пайшла дзяячка БГКТ, методык па навучанні беларускай мовы (раней візітатар), аніматарка дэкламатарскіх і сцэнічных конкурсаў Тамара Русачык, якая ў час апошніх зімовых канікул забрала з кабінета беларускай мовы ў бельскай „тройцы" насценную газету з бел-чырвона-белым сцягам і Пагоняй. Згаданая методык з'яўляецца найбольш уплывовай асобай у навучанні беларускай мовы, асабліва ў вёсках. Усё часцей сустракаем там у залах, адведзеных для навучання беларускай мовы, насценныя газеты з чырвона-зялёным сцяжком ды савецкім гербам. Некаторыя настаўнікі (каб не пярэчыць ранейшай практыцы) замяшчаюць два гербы і два сцягі, тлумачачы незалежніцкія як гістарычныя, а афіцыйныя — як рэальныя на сённяшні дзень.

— Калі дзеці пытаюць які сцяг, гімн ці герб сапраўдны, хочацца плакаць, — скаментавала сённяшнюю сітуацыю настаўніца, якая жадала застацца ананімнай.

Недарэчнасць сітуацыі заключаецца ў тым, што польская дзяржава ўшаноўвае бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоню.

**Ганна Кандрацюк**

# Інфармацыйны бюлетэнь БНВК

„Ад імя радных БНВК дзякуем усім жыхарам Гайнаўшчыны, якія даверылі нашым кандыдатам у выбарах у Рады павету, горада і гмін", — гэта першыя радкі Інфармацыйнага бюлетэня Беларускага народна-выбарчага камітэта ў Гайнаўцы, якога першы нумар выйшаў у канцы лютага гэтага года. Яго галоўны рэдактар Міхал Андрасюк распавядае ў ім чаму БНВК рашыўся на саюз з СЛД, паведамляе пра першую сесію Рады горада, абгрунтоўвае неабходнасць стварэння беларускай гімназіі ў Гайнаўцы, за якую выказаўся Клуб радных БНВК. Можна там таксама даведацца пра зарплаты бурмістра, яго намесніка і старшыні рады ды пазнаёміцца з працай Клуба радных БНВК.

— У бюлетэні будзем перад усім інфармаваць пра пасяджэнні Рады горада, іх вырашэнні. Хочам дайсці з інфармацыяй да выбаршчыкаў. Думаем змяшчаць выказванні радных, але і даваць ацэнку іх працы, незалежна ад прыналежнасці, — кажа Міхал Андрасюк. — У першым нумары гаворым пра бюлетэнь ABC, які вельмі моцна крытыкуе праўлячую ў горадзе кааліцыю. Нашай задачай не будзе палеміка з раднымі ABC, крытыкаваць будзем тых радных, якія будуць рабіць памылкі. Будзем раіць людзям, як вырашаць іх штодзённыя справы, куды падацца каб, прыкладова, адрамантаваць вуліцу. Не ведаю ці будуць такія магчымасці, каб бюлетэнь быў ініцыятарам канкрэтных спраў, але можам памагаць у іх рэалізацыі. Думаем, што ад наступнага нумара будзе ўжо пастаянны фельетон аб надзённых справах Гайнаўкі. Калі дазволяць фінансавыя магчымасці, бо пакуль што выходзім за грошы радных Клуба БНВК, будзем намагацца трымаць з выбаршчыкамі пастаянны кантакт, друкуючы бюлетэнь раз у месяц. У рэдакцыйным калектыве займацца будуць яшчэ Міхал Байко і старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Міхал Голуб. На працягу года ад выбараў можам яшчэ выдаваць наш бюлетэнь пад шыльдай Беларускага народна-выбарчага камітэта, які пасля гэтага тэрміну павінен спыніць сваю дзейнасць. Аднак хочам мы, каб не абмяжоўваць сваёй працы толькі да Клуба радных і думаем тады пераўтварыць Камітэт у нейкую плынь, напрыклад, з названнем Беларуска-народная плынь.




Першы нумар бюлетэня БНВК, хаця невялікі па аб'ёме, выдадзены эстэтычна, у двух колерах — чорным і чырвоным. Аднак усе артыкулы напісаны на польскай мове, таму і звярнуўся я з запытаннем: якая прычына, што няма ў ім тэксту на беларускай мове?

— Гэта толькі першы нумар, з якім мы хацелі выйсці да чытачоў Гайнаўкі. Хочам, каб прачыталі яго і прыхільнікі СЛД, і прыхільнікі „Салідарнасці", якія здаўна жывуць сярод нас, а беларускай мовы не ведаюць, а калі будуць патрабаванні жыхароў, каб друкаваць частку матэрыялаў на беларускай мове, то будзем гэта рабіць, — адказаў Міхал Андрасюк.

— Зверху надрукавалі мы дзве літары „L B", якія хочам замацаваць у свядомасці гайнавян, каб атаясамліваліся яны з Беларуска-народным (Białorusko-Ludowym) камітэтам. Аб'ём бюлетэню залежны будзе ад колькасці інфармацый, якія ў ім змесцім.

**Аляксей Мароз**

# Сакавік — 1999

**Дарагія суродзічы!**

Дзень 25-га сакавіка — гэта дзень нашага нацыянальнага ўздыму, дзень волі Беларусі, дзень адраджэньня беларускае дзяржавы.

Сёньняшні ўрад Беларусі, пачынаючы ад прэзыдэнцкае адміністрацыі да парлямэнту, усталёванага Лукашэнкам — гэта камуністычнае зборышча, кіруючую ролю ў якім займаюць у большасьці чужынцы, якія зацікаўлены толькі ў адным — утрыманьні ўлады над народам Беларусі. Яны загналі нашу Бацькаўшчыну ў палітычны і эканамічны тупік, а наш народ нагэтульки запалохалі, што ён баіцца выказаць сваю думку, не адважваецца ганьбіць учынкі ворагаў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Аб'ядназўшыся навакол ідэі барацьбы за незалежнасьць, і ведаючы, што разнастайнасьць поглядаў стымулюе людзкую творчасьць, мы павінны зрабіць усё магчымае, каб дапамагчы нашаму народу вызваліцца з ланцугоў абыякавасьці і набрацца сілы для барацьбы за аднаўленьне поўнае беларускае незалежнасьці.

Верачы ў зьдзейсьненьне ідэялаў незалежнасьці, будзем нашым шматгалосым хорам, разам з нашай патрыёткай-пакутніцай Ларысай Геніюш, паўтараць і верыць у яе прыгожыя, абнадзейлівыя радкі:

І ня сьціхне песьня ў Прынямоньні,
І ня згіне мова на Дняпры,
Прыйдзе час і водгульле Пагоні
Да сялібаў данясуць вятры!

Залунае сонечна Пагоня,
Мужны рыцар, крыж і белы конь
І народ наш болей не застогне,
Што прайшоў пакуты і агонь!

Жыве Беларусь!

**Расьціслаў Завістовіч**
**Старшыня**
**Міхась Сенька**
**Сакратар**
**Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі**

# Няздзейсненая ідэя

[1 ☞ працяг]

ецца іх нацыянальны інтарэс. Ва ўсходняй, праваслаўнай, Украіне эмацыянальныя сувязі з Расіяй паралізавалі ўсялякую думку пра дзяржаўную самастойнасць.

У беларускім нацыянальным руху справа незалежнасці да 1917 года ніколі практычна не ставілася. Упершыню ў 1884 г. беларускія нарадавольцы на старонках часопіса „Гоман" паставілі ідэю палітычнай аўтаноміі Беларусі ў межах дэмакратычнай Расіі. Руския таварышы-сацыялісты накінуліся на іх, аднак, абвінавачваючы ў спробе стварэння новага народа. Пасля, на пачатку XX стагоддзя, да ідэі аўтаноміі вярталіся правадыры Беларускай сацыялістычнай грамады, але ніколі не асмельліся выказаць думку пра незалежнасць. Калі такая думка не існавала ў свядомасці эліты, не магла таксама заіснаваць сярод люду. Пасля 1905 г. нацыянальнае адраджэнне сярод беларусаў было відавочнае — друкаваліся беларускія часопісы, кніжкі, адкрываліся легальныя бібліятэкі і нелегальныя школы. Было яно настолькі выразнае, што выклікала патрэбу змагання з боку польскага і расійскага друку, але адначасова, у параўнанні да нацыянальнага і палітычнага патэнцыялу суседзяў, проста сімвалічнае.

Першая сусветная вайна і нямецкая акупацыя паўплывалі як каталізатар на развіццё нацыянальных працэсаў на тэрыторыі ўсходняй Еўропы. Беларусы з зямлямі прыдумалі ідэю аднаўлення Вялікага княства Літоўскага як шматнацыянальнай дзяржавы літоўцаў, палякаў, беларусаў і яўрэяў. Большасці палякаў і літоўцаў гэтая ідэя аднак не зацікавіла, яны мелі свае мэты ў выглядзе незалежных нацыянальных дзяржаў.

Пасля лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі ўзніклі новыя спрыяльныя ўмовы для рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў усіх народаў былой імперыі Раманавых. Сярод беларусаў пачалася таксама гарачая дыскусія і спробы пошукаў адказу на пытанне: што далей? З'езд беларускіх партый і арганізацый у сакавіку 1917 г. стварыў нават прадстаўнічы Нацыянальны камітэт, які ўзначаліў памешчык Раман Скірмунт, але кіраўніцтва гэтага Камітэта накіравалася ў Пецярбург прасіць расійскіх дэмакратаў аўтаноміі, замест, узорам іншых народаў, ствараць самому палітычныя факты. Расіяне, са свайго боку, не на тое стагоддзямі стваралі імперыю, каб пасля яе добраахвотна раздаваць усім падпарадкаваным народам. Іх адмоўнае стаўленне да беларускіх патрабаванняў зусім зразумелае. Сярод беларусаў тым часам вялікую актыўнасць праявілі ўсялякія сацыялісты і камуністы, якія шукалі паразумення з рускімі бальшавікамі, змагаючыся адначасова з памяркоўнымі беларускімі арганізацыямі. У рашаючы момант прыватныя і класавыя інтарэсы беларускімі левымі арганізацыямі ставіліся вышэй нацыянальных. Шчасця для беларусаў шукалі яны ў вялікай сацыялістычнай Расіі.

Пасля бальшавіцкага путчу, званага кастрычніцкай рэвалюцыяй, беларускія дзеячы атрымалі дазвол ад камісара па нацыянальных справах ва ўрадзе Леніна Іосіфа Сталіна на правядзенне ў Мінску Нацыянальнага з'езда ў снежні 1917 г. Ніхто не ставіў нават пытання пра незалежнасць. З'езд прызнаў легітымнасць цэнтральных бальшавіцкіх улад на Беларусі, сябе акрэсліўшы лакальнай савецкай уладай. Але такога ходу падзеяў не маглі сцярпець камуністы, якія ў кастрычніку захапілі ўладу ў Мінску і кантроль над вайсковымі расійскімі фарміраваннямі. Не было сярод іх беларусаў. Кіраваў гэтай групай армянін Аляксандр Мяснікян. Бальшавікі нават фарміраванне беларускай савецкай улады прызналі сепаратызмам і вырашылі разагнаць З'езд.

Толькі тады большасць беларускіх дзеячаў зразумела, што ва ўмовах расійскай дзяржаўнасці, незалежна ад таго, хто знаходзіцца пры ўладзе, немагчыма разлічваць на ніякую аўтаномію. Акт 25 Сакавіка быў аб'яўлены як вынік роспачнага становішча беларускага руху, як адзіны выхад у існуючых палітычных умовах. Думка пра незалежнасць была нечым новым не толькі сялянскім масам, але таксама эліце. Ніхто раней не разважаў пра будучыню ў такіх катэгорыях, таму і ніхто добра не ведаў як ажыццявіць узніклую ідэю. Беларусы, у адрозненні ад літоўцаў, не мелі саюзнікаў. Мелі затое суседзяў, якія пра Беларусь думалі як пра частку сваёй тэрыторыі.

**Яўген Мірановіч**

# Шлях у Беларусь

**У гэтым месяцы споўнілася 43 гады ад выхаду ў 1956 годзе першага нумара „Нівы". Неяк занадта не чуваць апляўзу; пакаленне, якое прыйшло на змену пачынальнікам, значна больш ахвоча крытыкуе былую „Ніву", чым пералічвае яе заслугі. Толькі зрэдку, ды найчасцей адтуль, адкуль ніхто і не спадзяваўся б, пачуеш нарэшце пахвальныя словы.**

**З заснавальнікам і шматгадовым галоўным рэдактарам „Нівы" Георгіем ВАЛКАВЫЦКІМ гутарыць Ада Чачуга.**



*Злева: Георгій Валкавыцкі, Ада Чачуга і Мікалай Самоцік на І з'ездзе выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя ў 1947 г.*

***— Не так даўно ў „Ніве" было апублікавана інтэрв'ю Алега Латышонка з Славамірам Адамовічам, аўтарам „вершаў канкрэтнага супрацiву", які адназначна сцвердзіў, што ад „Нівы" ён „пачаў свой шлях у Беларусь". „Я чытаў, — сказаў ён, — не заўсёды ўяўляючы, што чытаю, але вось гэтыя тэксты жывой беларускай газеты запалі ў памяць. «Ніва» гэта была рэальная беларуская газета, гэта быў рэальны беларускі дух, які, як ні дзіўна, выходзіў з Польшчы" („Ніва", н-р 15, 1998 год).***

— У мінулым годзе таксама паэт Ян Чыквін пісаў, што па „Ніве" ён знаёміўся з гісторыяй Беларусі. Такія словы можна было пачуць і ад іншых. Вось Уладзімір Паўлючук сказаў мне нядаўна: „Як вы нас цярпелі?!" Для мяне гэта была большая ўзнагарода за дыпломы і крыжы, бо чалавек зразумеў, што я не быў супроць яго. Так што зрэдку чуваць і апляўз.

***— Некаторыя лічылі і лічаць, што „Ніва" працягвала заходнебеларускія традыцыі...***

— Сапраўды, мне хацелася, каб яна была прадаўжальніцай „Нашай нівы", хаця я не мог пагадзіцца з ацэнкай яе крытыкамі літаратуры і гісторыкамі Беларусі. Калі рэдактарамі былі Колас і Купала, значыць, газета не магла быць буржуазна-нацыяналістычнай. Аднак жа і гэтых паэтаў у канцы 30-х гадоў абвінавацілі ў многім.

***— Дык гэта так, як і з тваёй „Нівай": „там", г.зн. на Беларусі і ў Маскве, афіцыйныя ўлады лічылі нас буржуазнымі нацыяналістамі, — „тут", у Варшаве і на Беласточчыне, распаўсюджвалі версію, быццам мы гэта „гняздо сталінцаў", „агентаў Масквы", „яе ўтрыманкаў". Многія нават зайздросцілі нам „грошай": „Вам то добра!".***

— Калісь я пачуў, што ў Гродне не хочуць чытаць нашу „кулацкую газету", бо мы не пішам пра калектывізацыю. Мы сапраўды, рэалізуючы геркаўскую палітыку, хвалілі заможных гаспадароў, сельскагаспадарчыя гурткі, шмат пісалі пра іх дасягненні. Я тады пагаварыў з галоўным рэдактарам „Гродзенскай праўды", каб ён растлумачыў іхняму партыйнаму кіраўніцтву, як выглядае палітыка польскай дзяржавы ў сельскай гаспадарцы.

***— Інакш, чым на Беларусі, асвятляліся ў нас не толькі справы сельскай гаспадаркі.***

— Вядома, адразу ад 1956 года мы інакш, чым была афіцыйная версія ў Беларусі, прадстаўлялі гісторыю і літаратуру Беларусі. Пісалі пра тых, пра якіх тады ў Беларускай рэспубліцы не толькі не пісалі, але нават гаварылі паціху: пра Алеся Гаруна, Ігната Дварчаніна, Вацлава Ластоўскага, Браніслава Тарашкевіча, братоў Антона і Івана Луцкевічаў і іншых.

***— Вось так, а новая змена журналістаў, не азіраючыся назад, адразу адкінула былую „Ніву" як цэласць!***

— Бо яны яе тады не чыталі!

***— Адразу яны ўзяліся нас лаяць, а толькі пазней пачалі гартаць старыя падшыўкі „Нівы", пытацца, як было, ды адкрываць даўно адкрытыя Амерыкі.***

— Здаецца, было гэта ў мінулым годзе, а мо крыху раней. Янка Максімюк як старшыня літаратурнага конкурсу пісаў, што дагэтуль ніхто моладдзю не цікавіўся, не ствараў ніякіх умоў для развіцця талентаў, наадварот, у той час стараліся маладых да паэзіі не дапускаць. Такая пастава нас вельмі крыўдзіць.

***— Дык адкуль жа тады ўзяліся тыя паэты, якія стварылі літаратурнае аб'яднанне? Відаць, Янка пра гэта не падумаў. Яны ж узгадаваліся ў „Ніве"! Зрэшты, многія лічаць менавіта цябе родаачальнікам беларускага літаратурнага руху на Беласточчыне. Памятаю, з якім піетызмам ты браў у рукі кожны новы верш. Як працаваў над ім, папраўляў, перарабляў, часамі пісаў яго нанава. Колькі лістоў ты напісаў маладым паэтам, як заахвочваў, запрашаў у рэдакцыю, раіў, вучыў. Твой літаратурны талент і адукацыю ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ты, здаецца, цалкам ужыў (калі быў галоўным рэдактарам) у „Ніву" і ў маладых паэтаў. Ізноў жа: шкада, што маладая наша змена пра гэта не ведае. Многія сёння папракаюць таксама, што „Ніва" мела выключна культурна-асветны напрамак, а гэта ўсё ерунда!***

— Газета павінна мець свой напрамак. У нас гэта была грамадска-культурная газета. Цяпер у „Ніве" шмат палітыкі, але ж гэта не палітычная газета. Калі мы пішам, што гэта газета беларусаў у Польшчы, дык варта арыентавацца на базу. Сёння газета аднабакова адлюстроўвае сітуацыю ў Беларусі, паказваючы яе толькі з пазіцыі палітычных апанентаў прэзідэнта Беларусі. А тыднёвік беларусаў мае абавязак даць духоўную страву ўсім беларусам.

***— Гледзячы з сённяшняга дня, ці правільны быў той грамадска-культурны кірунак „Нівы"?***

— Мы рабілі тое, што было ў рамках магчымасцей. Вядома, не ўсё было выкарыстана. Нас было мала, грошай — таксама. Цяжка было заангажаваць нейкага спецыяліста звонку. Не ўсё можна было пісаць: цэнзура. Цяпер значна лягчэй.

***— На якога чытача разлічвала ў асноўным колішняя „Ніва"?***

— Ясна, што мы лічылі на вяскоўца. Беластоцкага беларускага вяскоўца (не абавязкова селяніна). А цяпер я не магу сарыентавацца, на каго, на якога чытача разлічвае „Ніва".

***— А ці бывае табе сорамна, калі некаторыя называюць „Ніву" „сярмяжнай" газетай?***

— Калі б не было „Нівы", не было б сёння і тых, што пры ёй выйшлі ў паны. Многія вучоныя сёння сцвярджаюць, што на нашым матэрыяле карысталася і карыстаецца шмат даследчыкаў беларускай спадчыны.

***— Як выкарыстаў ты адзінаццаць гадоў на пенсіі?***

— Ну, кніжкі, бадай, ты ведаеш: „Рознагоддзе" (1989 г.), „Віры" (1991 г.), „Макатразмы" (1997 г.), „Белая вязь" (1998 г.).

***— Ці ўсе планы нарэшце кніжак ты ўжо выканаў, што пачаў ізноў інтэнсіўна пісаць у „Ніву" на старонку гумару, якую ты сам калісь рэдагаваў?***

— Не, ужо маю чарнавік пятай кніжкі: „У каменным крузе". Гэта будуць успаміны чалавека, вывезенага на працу ў Нямеччыну.

***— І так жывеш сабе спакойна да дзевяноста гадоў, як прадвяшчала табе цыганка...***

— Але не ўсё спраўдзілася. Мела быць дзве жонкі, а тут усё адна і тая ж. Але мой сябра Барыс Руско растлумачыў: „Вера і ёсць твая другая жонка! Першай была паэзія".

***— Дзякую сардэчна за размову.***

**Гутарыла Ада ЧАЧУГА**

Міхась АНДРАСЮК

# Кароткая гісторыя Партыі кучаравых

### 3. Гарэм

Летні час няспешна калыхаўся на захад. Збіраў з тратуараў яркія малюнкі і як лішняе смецце згартаў іх у паўмрочныя падвалы горада.

Гэтаксама згартаюцца ў забыццё людзі, рэчы і зрарэнні, калі нябачна канчаецца ахвяраваны ім добры час.

А мы — усё яшчэ аставаліся ў цэнтры здарэнняў. Нашы думкі давалі кшталт бесцялесным справам, а людзі адпраўляліся на жыццёвыя шляхі з нашым праклёнам або блаславеннем.

— Я не хачу ў гарэм, — жанчына родам з ранняга Гамулкі прытрымалася побач і пераступаючы з нагі на нагу ўглядалася ў нас адцвіўшым блакітам надзеі і разгубленасці.

— Якое „не хачу"? Няма „не хачу", ласкавая пані. Мы ўжо прадбачылі вас аднаму шэйху. Абяцалі, падпісалі адпаведныя дакументы і не будзем рабіць з рота халяву.

Жанчына збялела. Яе ўпарадкаванае жыццё, яе справы, раскладзеныя па шуфлядах згодна з іерархіяй важнасці — усё раптам пераварочвалася дагары нагамі! Здавалася — хвіліна яшчэ, а ўпадзе яна на калені, каб з гэтай спакон вякоў знаёмай пазіцыі бараніць сваю будучыню. Аднак не ўкленчыла. Адступіўшы крок назад, дзесьці з кутка, з летняга паўмораку выцягнула на святло ці не апошні свой аргумент.

— А ў мяне ёсць яшчэ і муж. Во, глядзіце.

— Так, так. У яе ёсць яшчэ і я, — аргумент заявіў сваю прысутнасць.

Тадзік аналізаваў якраз свежападстаўлены куфаль. Здалося яму, што ўзровень беспрадуктыўнай пены значна там перавышае нормы прыстойнасці і дылема „ўносіць рэкламацыю ці не ўносіць" поўнасцю займала ягоную ўвагу.

— А так, дарэчы, ведаеце вы, што такое — шэйх? Нафта. Пальмы. Пляж. Даляраў — бы вады ў Семяноўцы...

— Даляры... Даляры ж не ўсё. Ёсць яшчэ і сорам...

— І нязручнасць, — выцягнуты на святло муж трымаў фасон. Не адыходзілі, тапталіся ў месцы, стараючыся адчытаць свой лёс з нашых непранікнёных твараў.

— А як — багаты гэты шэйх? Багацейшы за Васю Шэшаля? — Усё ж такі нябачны, петрадалярамі прыхарошаны д'ябал засеяў у бабінай галаве маленькае зярнятка граху і наступаючы на спіну, далікатна, але і рашуча папіхаў яе ў абдымкі пякельных віроў.

— Вось табе і параўнанне! Шэшаль — у найлепшым выпадку! — можа гэтаму шэйху чаравікі глянцаваць.

— Значыць, калі б добра падысці, дык і нейкую кватэру можна было б з яго выціснуць? — пацікавілася кабета.

— Ну, хоць маленькую... Хай сабе і аднапакаёвую. Нам, ведаеце... Што нам трэба! А вось дачцэ — было б хай. Памятка такая. — Муж вудзіў думку асцярожна, каб не спалохаць. Падцягваў яе бліжэй, замацоўваў на здабытай пазіцыі.

— А ты маўчы! — натапырылася жонка. — Бачыў хто: нашай дачцэ — аднапакаёўку! І каманіца будзе. — Круцілася ў месцы то крок наперад ступаючы, то крок назад, быццам бы чырвоны, распалены вугельчык прыпякаў ёй пяты.

Тым часам Тадзік дайшоў да вываду, што ўсё-такі няма сэнсу псаваць добрыя адносіны з гаспадарамі з-за невялікай іхняй памылкі, і вярнуўшыся ў рэчаіснасць цяпер толькі глянуў на сваіх субяседнікаў. Стаў перад вачамі ладны, жывы кусок гісторыі чалавецтва.

— Калі, ведаеце... — трэба ж было канчаць гэту дзіўную сустрэчу ды шукаць спосаб, які паспяхова адправіць гасцей туды, адкуль яны прыйшлі. — Шэйх гэты, так сказаць — вельмі ж непрыгожы! Ну, што я кажу. Непрыгожы! Зусім ён брыдкі. А-гід-ны!

— А гэты бамбула, па-вашаму, дык прыгожы?! — паказала рукою за сябе кабеціна. — Ну, скажы сам: прыгожы ты?

— Рацыя. Куды мне там да прыгажосці, — муж выпрашчыў вочы, стараючыся адагнаць ад сябе апошнія доказы мужчынскай красы.

— Дык яшчэ, — Тадзік пачухаў патыліцу, — стары гэты шэйх. Ці не пад сотню набліжаецца?

— А тут што, маладосць? — жанчына зноўку махнула за сябе. — Ну, скажы сам: маладзён ты?..

Пасля першай прэзентацыі муж і не паспеў паставіць вочы на сваё месца. Выкліканы другі раз да дошкі, ад нечаканасці не ведаў ён: пярэчыць ці пацвярджаць.

— А доўга жывуць яны, гэтыя шэйхі? — у бабінай галаве вокамгненна нараджаўся наступны план, новы вобраз, дзе яна, як шчырая ўдава, нясе свой горкі лёс з плачам, з енкам, з поўнай пакуты цярплівасцю.

— Наогул не так і доўга. Асабліва багатыя — паміраюць раней. А гэты ваш... Як тут сказаць... Бачыце — абанкруціўся якраз. А такія абанкручаныя шэйхі, о-го-го, доўга яны мучацца на белым свеце. Бывае — дзве сотні і яшчэ адзін год цягнуць.

Пачуўшы такое, баба войкнула. Каманіца — у якую паспела ўжо амаль пасяліць дачку — раптоўна і з-за нашай прычыны, цэгла за цэглай, сцяна за сцяной пачалаператварацца ў руіну.

— А я так і ведала, што ёсць тут нейкае ашуканства! Глянуць хапае на вашы морды! Лепшае сваім прыхоўваеце. Падмазка, падкупка, хабар — вось яно, ваша крэда! Хадзі, стары, пайшлі!

Стары глянуў на нас зрокам, у якім было ўсё: расчараванне, спачуванне, нянавісць. І паплёўся ўслед за сваёй прадпрымальнай паловай.

На другі дзень з'явіліся ў горадзе пагаласкі пра наш прадажны, з матчыным малаком высмактаны характар.

*(працяг будзе)*

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Сяргей ПАНІЗНІК

### Сцяг

Светлым полем я нясу
агнявую паласу:
як маланка, нада мной
зіхаціць над галавой
сцяг мой вольны,
сцяг мой смелы,
сцяг мой бел-чырвона-белы.

Быў адважны продак мой
у пагоні баявой.
Той пагоні чую звон:
хай нясецца наўздагон
сцяг мой вольны,
сцяг мой смелы,
сцяг мой бел-чырвона-белы.

Залунай на ўвесь прасцяг,
агнявых вякоў працяг:
ёсць Дзяржава, ёсць Народ!
Развівайся — і ў палёт,
сцяг мой вольны,
сцяг мой смелы,
сцяг мой бел-чырвона-белы!

# *Я вельмі хацела б...*

Першае, што кідаецца ў вочы ў Пачатковай школе ў Орлі гэта вялікая колькасць дэкарацый, насценных газет, лозунгаў. Сярод іх можна пабачыць цікавую газетку, адведзеную месцам праваслаўнага культу ў Польшчы (шкада толькі, што не на польскай мове). На калідоры, ля кабінета беларускай мовы, іншая газетка, прысвечаная беларускай мове, азагалоўлена цытатай з Францішка Багушэвіча — „Не пакідайце мовы роднай”. На ёй бачым фатаграфіі Ларысы Геніюш, Алеся Гаруна, Якуба Коласа, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Пімена Панчанкі, Ніла Гілевіча і Уладзіміра Дубоўкі ды фрагменты іх вершаў пра любоў да роднай мовы. **Яўгенія Тхарэўская**, настаўніца беларускай мовы, паказвае залу н-р 2, якую абсталявала і ўпрыгожыла разам з вучнямі старэйшых класаў, што ходзяць на беларускую мову.



*IV клас ПШ у Орлі з настаўніцай беларускай мовы Яўгеніяй Тхарэўскай.*

У зале можна пабачыць каляровую выстаўку народных макатак, прылады хатняга і гаспадарчага карыстання, вышываныя кашулі, вырабы з саломы і бярэсты ды частку выстаўкі „Пяць стагоддзяў Орлі”, якую 5 верасня мінулага года наладзіў Міхал Мінцэвіч. Фрагмент выстаўкі, між іншым, паказвае артыкулы з „Зоркі” пра жыццё школы.

*Анеля Мартыновіч і Магда Лемеш — вучаніцы VI класа ПШ у Орлі.*

— Як тут прыгожа, — захапляліся дзеці, якія зайшлі сюды сфатаграфавацца для „Зоркі”.

**Конкурсы і экскурсіі**

— Стараюся, каб заняткі беларускай мовы былі цікавыя, — кажа настаўніца.

Неўзабаве на Свята вясны вучні паедуць на экскурсію ў Тапіла, дзе будзе вогнішча з каўбаскамі і язда вузкакалейкай па Белавежскай пушчы. У пачатку школьнага года настаўніца наладзіла экскурсію ў Беларускі музей у Гайнаўку, а год раней — наездку ў скансэн Дарафея Фіёніка ў Студзіводах. Пры нагодзе ўдзельнікі экскурсіі завіталі ў бельскую ратушу, дзе пабачылі выстаўку „Бежанства — невядомы эксодус”, ды пазнаёміліся са старажытнай часткай горада і яго цэрквамі. Яўгенія Тхарэўская згадвае таксама пра ўдзельніцтва ў дэкламатарскіх і сцэнічных конкурсах. Як высвілася, амаль усе вучні малодшых класаў прымалі ўдзел у школьным этапе дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова”. Вучні падрыхтаваліся таксама да сцэнічнага агляду ў Кляшчэлях. Малодшыя класы развучылі спектакль паводле казкі Алеся Якімовіча „Як лісіца ваўка судзіла”, а старэйшыя — п’есу Францішка Аляхновіча „У ляссным гушчары”. На жаль, на час конкурсу выпалі паховіны ў сям’і Івонкі Пішчатоўскай — дзяўчынкі, якая іграла галоўную ролю.

— Пастаноўкі пакажам на Свята жанчын, — кажа настаўніца.

Пра іншы конкурс, звязаны з культурай рэгіёну, расказвае настаўнік праваслаўнай рэлігіі Дымітр Мартыновіч.

— Ужо чатыры гады ў школе ладзіцца Конкурс калядак. У гэтым годзе прыняло ў ім удзел 17 выканаўчых груп з вечара „Шчодры вечар”. Калядніхі выступілі таксама ў час Куцці для адзінокіх жыхароў гміны, якая адбылася ў арлянскай школе.

**Выдатнікі**

У школе многа выдатнікаў па беларускай мове.

— У другім класе, можна сказаць, усе выдатнікі. Дзеці ўсе праступілі да дэкламатарскага конкурсу, вельмі старанна выпаўняюць „Літарынку”. **Наталька Міранчук** заняла II месца на раённым этапе дэкламатарскага конкурсу, — расказвае пра сваіх вучняў Яўгенія Тхарэўская.

Настаўніца пахваліла таксама ўвесь III клас, дзе праступіла да дэкламатарскага конкурсу 6 асоб. У IV класе вылучаюцца **Даротка Мартыновіч, Юлітка Каліна, Паўлік Дзюбанос і Магда Ахрыцэвіч.**

Сярод выдатнікаў з VI класа апынуліся: **Магда Лемеш, Аня Мартынюк, Ірэк Пасечнік, Віялета Добаш і Крыстафор Хамански**. Апошні хлапчук бліскуча паказваецца ў сцэнічных пастаноўках.

У VII класе выдатнікамі з’яўляюцца: **Магда Мартыновіч** (III месца ў раённым дэкламатарскім конкурсе), **Кася Васілюк** (I месца ў раённым і III у цэнтральным дэкламатарскім конкурсе), **Івона Пішчатоўская, Дарота Бакун, Бася Навіцкая, Грышка Кубаеўскі і Данік Такаюк**, а ў VIII класе: **Давід Грыгарук, Оля Рэнгайла, Моніка Сахарэвіч, Лукаш Казімерук** ды **Андрэй Каляда**.

**У школе**

Зараз вырашаецца лёс гімназіі. З году ў год паменшваецца лік навучэнцаў. На сённяшні дзень тут 162 вучні, у нулявым класе 22 дзетак. Апрача мясцовых вучацца ў Орлі школьнікі з Кашалёў, Міклашоў, Рэдутаў, Крываціч, Спічак. На беларускую мову ходзіць 87 дзяцей. Разам з Яўгеніяй Тхарэўскай гэтаму прадмету навучае Ніна Шуй, якая вядзе заняткі ў V класе.

— Яшчэ толькі вясковыя дзеці на перапынках гавораць на беларускім дыялекце, — кажа Яўгенія Тхарэўская. — Арлянскія ды кашалёўскія ўжо польскамоўныя. Для многіх беларуская мова — тое, што і кітайская. На шчасце, не для ўсіх.

— Я вельмі хацела б ведаць мову сваіх продкаў і іх мінулае, абрады, — сказала ў час сімпатычнай сустрэчы Магдалена Лемеш, выдатніца па беларускай мове.

ЗОРКА

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*



*II клас ПШ у Орлі.*

# Любчыны прыгоды

*(амаль дзённік)*

**Што Любка з кветкай зрабіла**

Зімой у Летнім садзе не гэткая лагода, як улетку: намяце гурбы і калі разграбуць снег — не палянуюцца, — то яшчэ так-сяк, а калі не — то і не праехаць з каляскай.

А па вясне — як сад падсохне, ды яго ў належны выгляд прывядуць, — зусім іншая карціна: народу — процьма! Кожны туды трапіць хоча! Хто здалёк — дык каб пахваліцца, што па Летнім садзе шпацыраваў, — а хто блізка — то як у свой палісаднічак забегчы — ад тлуму спачыць ды знаёмых каго сустрэць.

Хоць і прыпякае сонца вясновае, ды не спяшаюць ліпы і клёны лісцейка сваё выпускаць — пазней за ўсіх у наваколлі гарнітур свой зялёны апранаюць: старыя дрэвы, цярплівыя! Ведаюць, што нат у канцы траўня маразы прыхапіць могуць, а то часам і снег пойдзе, не кажучы пра сіберны пранізлівы вецер, што з Фінскага заліва ледзь не штодзень спраўненька паддзімае, — якая ўжо тут вясна!

Але паціху ўбіраецца сад у зяляніну.

Па вясне — і Любцы весялей. Перад траўнем — у красавіку — стаяць сама навучылася. Трымаў яе татка за рукі, а потым, нешта расказваючы, забыўся і адпусціў — сам рукамі размахвае, каб ясней людзям было, што ён сказаць хоча, — і раптам, спахапіўся: што ж гэта ён робіць?! На каго дачушку кінуў? Зірк — а тая стаіць і не хітнецца: чакае, пакуль татка з гасцямі нагаворыцца. Госці ў крык — спалохаліся! — а яна — ані! Толькі як татка апамятаўся ды за яе баяцца стаў, што гэпнецца на падлогу, дык і яна ў той самы момант успомніла, што стаяць яшчэ не ўмее. І захісталася. Ад страху таткавага!

Але татка ўжо сочыць — не даў шлэпнуцца — падхапіў на рукі і засмяяўся радасна: не сёння-заўтра пойдзе дачушка! То праз месяц якраз і пайшла: тэп-тэп! тэп-тэп! Во дзе радасці бацькам было! А Любцы — што болей: што ні крок — то пацалунак татаў, ці — калі таткі ў хаце няма — усмешка матульчына!

А як Летні сад адчынілі, дык яны адразу туды! Заехалі глыбей і спыніліся. Хоць і рэдзенькая яшчэ трава, ды высокая ўжо — ледзь не па калена Любцы, — можна і па траве пахадзіць. Узяў татка дачушку і збоч дарожкі — у траву — і паставіў: хай сама ўсё вывучае, да зямлі прывыкае. А ножкі — то дзіцячыя яшчэ слабенькія — не ўстаяць доўга! То Любачка хітнецца — сесці хоча, — але страшна ёй: нешта незнаёмае ля самых ног! — то ўверх, то ўніз паціхеньку гоцкаецца. Зжаліўся татка, прысеў побач і кажа: „Ты не бойся, Любачка! Гэта — трава! Яна не кусаецца! Паспрабуй!" — і правёў рукой па сцяблінках. Малая асцярожна дакранулася да травінкі — і праўда, не кусаецца! — і на татку задаволена — зірк! А ён ёй новае выпрабаванне рыхтуе: давай, кажа, кветак пашукаем! А пад ліпамі, крокаў за пяць ад іх, — плямкі беленькія зрэдзь! „Глянь ты, ёсцека!" — узрадаваўся!

А Любка і не цяміць, куды пазіраць. Засмуціўся татка: не ведае дачушка, што такое кветкі. І хаця няможна ў Летнім садзе штосьць чапаць, але ж ён толькі адну сарве, дачцэ паказаць! Перахрысціўся татка, грэх замольваючы, скок хуценька пад ліпы — дзякуй Богу, не бачыў ніхто, не прысароміць! — і да Любачкі: дзівіся, дачушка!

А Любка, без увагі на бацькавы перажыванні, узяла тую кветачку, пакруціла чагось у пальчыках, а потым, раптам так — не паспеў татка і слова сказаць — пялёстачак беленькі — хэп! і адарвала. Потым другі, трэці... А як адзін адзінюсенькі застаўся, зірнула на татку і — такое шчасце ў вачах! — пялёстачак гэты яму паказвае — маўляў, кахае яе нехта!

Свярбіць татку спытаць: а хто? Ды ці скажа: першае каханне — першая таямніца! Куды дзецца: і для таткі таямніца...

*(працяг будзе)*

**Анатоль Кірвель**



*Вучні з Ласінкі.* Фота Ганны Кандрацюк

## Казка пра ката, сабаку і мядзведзя Мішку

Жылі на свеце кот і сабака. Яны не любілі сябе, але тое ўсё змянілася.

Аднойчы кот ішоў дарогай, як перад ім з'явіўся мядзведзь. Называўся ён Мішка і вельмі любіў палохаць іншых звяроў. Ну і калі ён убачыў ката, падумаў, што добра было б напалохаць яго. Так і сталася. Мішка рыкаў, гнаўся за катом, а кот мяўкаў. Пачуў тое сабака і давай ганіць мядзведзя. Як Мішка ўбачыў яго, уцёк у лес. А кот і сабака сталі добрымі сябрамі.

**Мажэна Бадовец, VI клас ПШ у Дубічах-Царкоўных**

## Кніга-сяброўка

Кніга гэта сяброўка мая.  
Яна можа быць і твая.  
Ты глянь часам на полку,  
Вазьмі ў рукі сваю сяброўку!  
У кніжках знойдзеш усё што трэба,  
Нават, можа... лізнеш неба!  
Усе клопаты — набок,  
Калі ў кніжку зробіш скок!  
Калі хочаш у край нязнаны  
Пераехаць сам, без мамы,  
Ты сабе выгодна сядзь  
І пачні чытаць!

**Бэата Мінько, ПШ у Ласінцы**

# Мае зімовыя канікулы

Мяне завуць Паўліна Куптэль. Я вучаніца VI класа Пачатковай школы н-р 6 у Гайнаўцы. Хачу расказаць пра зімовыя канікулы.

Мае зімовыя канікулы ў гэтым годзе былі разнастайныя. Першы тыдзень я правяла ў хаце. Я памагала маме ў хатніх парадках. Выручала яе ў парадкаванні розных рэчаў у цэлым памяшканні.

Часам выходзіла я на панадворак, каб падыхаць свежым паветрам. Шкада толькі, што ў той час не было снегу. Вуліцы былі мокрыя і чорныя, не заўсёды хацелася выходзіць. Некалькі разоў я ездзіла гарадскім аўтобусам у цэнтр Гайнаўкі, каб там пaглядзець вітрыны магазінаў і прыглядзецца нашаму гораду.

У другім тыдні зімовых канікулаў я была ў Старыне. Гэта малая вёска, распалоѓжаная непадалёк мяжы Польшчы з Беларуссю. У гэтай вёсцы знаходзіцца асяродак адпачынку. Рэдакцыя беларускай газеты „Нівы" сарганізавала там Сустрэчы „Зоркі". Я прымала ў іх удзел. Былі гэта журналісцкія, пластычныя і тэатральныя заняткі. Было нас звыш сарака асоб. Мелі мы мілых апекуноў, якія стараліся цікава запоўніць наш час.

Найбольшай атракцыяй сустрэч меў быць куліг. На жаль, не ўдаўся. Пагода не паспрыяла. Пад канец пабыўкі мы паказалі спектакль, на які прыбылі мясцовыя людзі і бацькі некаторых удзельнікаў. Была цудоўная атмасфера.

Я думаю, што мае зімовыя канікулы былі ўдалыя. Добра, што я паехала на Сустрэчы „Зоркі". Асталося многа ўспамінаў ад праведзенага з сябрамі часу.

**Паўліна Куптэль, ПШ н-р 6 у Гайнаўцы**

# Польска-беларуская крыжаванка № 12

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу 3 тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Warkocz / Kaskada | | ▼ | Prag-nienie | Punkt / Marzenie | ▼ | Niemen | Ataman | | | |
| Kosmo-nauta ▶ | ▼ | | ▼ | ▼ | | ▼ | ▼ | | | |
| ▶ | | | | | | | | Noga | ▼ | Gatunek |
| Statek kos-miczny | ▶ | | | | Mnich ▶ / Lakier | | | ▼ | | |
| Kosa | | Saar | | | ▼ | | | | | |
| ▶ | | | | Dziki osioł ▶ | | | | | | |
| | | | | Kanada ▶ | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 8**

Лозунг крыжаванкі: Старына. Узнагароды, запісныя кніжачкі, выйгралі: **Эва Зубрыцкая** і **Дыяна Яканюк** з Нарвы, **Паўліна Савіцкая**, **Каміля Карповіч** і **Івона Лісавец** з Гарадка, **Цаліна Глагоўская** з Гданьска. Віншуем!



Талон „Зоркі" № 12  
21.03.1999

# Чаму ім удалося




Выступленне ў Нарве.

На працягу доўгіх гадоў беларускія дзеячы імкнуліся ўвесці навучанне беларускай мовы ў Беластоку, але гэта ніяк не ўдавалася. І не таму, што не было на гэта згоды асветных улад, а таму, што яны не змаглі знайсці адпаведную колькасць бацькоў, якія хацелі б, каб іх дзіця, побач з польскай мовай, вывучала і сваю родную.

У новых, беластоцкіх умовах беларусы-вяскоўцы, авансаваўшы ў польскасць, якая давала гарантыю заакцэптавання іх асяроддзем, не бачылі такой патрэбы.

Тое, чаго не ўдалося дасягнуць беларускім дзеячам на працягу многіх гадоў, выйшла, калі за справу ўзялася група маладых, ініцыятыўных бацькоў-беларусаў, беластачан, людзей з вышэйшай адукацыяй. Яны сапраўды заўзяліся. Не прапусцілі ніводнай нагоды дзеля таго, каб нешта кранулася ў справе навучання беларускай мовы. Пачалі (і слушна) ад прадшколля. Аб'яўлялі па радыё і ў „Ніве", хадзілі нават па хатах, вялі размовы з людзьмі, агітавалі, пераконвалі, заахвочвалі. Найбольш актыўна ўзяліся за справу Бася і Міраслаў Пякарскія, Міра і Юрка Каліна, Галіна Максімюк, Яўген Вапа, шмат дапамагалі радны Антон Мірановіч і юрыст Пятро Юшчук.

У выніку іх захадаў 1 верасня 1995 года пры прадшколлі н-р 14 былі адкрыты два аддзяленні з беларускай мовай — для малодшых дзяцей і для старэйшых. Малышоў-першапраходцаў хадзіла ў прадшколле каля сарака чалавек.

Колькі дзяцей прайшло праз беларускае прадшколле за гэтыя амаль чатыры гады? Доктар Бася Пякарская гаворыць мне, што каля сямідзесяці. Дзесяцёра з іх вучацца сёння ў першым і другім класе з беларускай мовай у школе н-р 4. Роднай мове вучыць іх тут настаўніца Аліна Ваўранюк. Вядома, добра было б, каб у школе дзетак было больш, але ўсё звязана то з аддаленым месцам жыхарства, то з гадзінамі заняткаў, якія не заўсёды даюць магчымасць бацькам завезці дзяцей у школу, ну, а можа той-сёй і баіцца перагрузіць сваё дзіця.

Ужо другі год беларускую мову вывучаюць таксама дзеці са школы н-р 11. Іх там 9 асоб. Частка з іх раней хадзіла ў беларускае прадшколле. Беларускай мове навучае настаўніца з Гарадка Тамара Бялькевіч.

Вернемся, аднак, да прадшколля. Цяпер у двух беларускіх аддзяленнях каля пяцідзесяці дзетак. Ахвотна аддаў сюды сваю дачушку і віцэ-консул РБ Павел Латушка. Выхавацелькі і настаўніцы з прадшколля імкнуцца да таго, каб дзеці там размаўлялі ўвесь час па-беларуску. Тут ёсць шмат беларускіх гульняў і кніжак для дзяцей, якімі забяспечваюць прадшколле асветныя ўлады Беларусі. Малодшым дзецям гэтыя кніжкі чытаюць выхавацелькі, а „старшакі" бойка бяруцца за чытанне і пісанне самі. Выхавацелькі гэта Альжбета Рудчук, Альжбета Бурачэўская, Эва Гняздоўская, Ірэна Максімюк. Тры гады працавала з дзецьмі Галіна Іванюк.

У мінулым годзе былі ўведзены новыя цікавыя заняткі па рытміцы, якія вядзе Аня Бабік, і па музыцы, іх вядзе Аліна Гаралеўская. Бацькоўскі камітэт прадшколля на чале з Басяй Пякарскай і Вяславай Мусько ўжо думае пра тое, каб увесці заняткі па маляванні.

Але найважнейшай справай, якая вядзецца ў прадшколлі, думаю, быў і ёсць іхні тэатр. У эпоху сучасных рытмаў, калі моладзь не цікавіцца фальклорам і амаль не разумее яго, дзецям тут прывіваецца ў дзеянні замілаванне да народных традыцый. Ад маленства, адразу, каб пасля не было расчараванняў.

За гэтыя гады ўжо было пастаўлена шмат інсцэнізацый з народнай абраднасці: „Каляды", з цыкла „Вяселле" былі паказаны дзве пастаноўкі: „Каравай" і само вяселле, „Масленіца", „Хрысціны".

Сцэнарыі гэтых пастановак пісалі самі бацькі (Ганна Кандрацюк і Аляксандр Максімюк), бацькі ж і выступалі разам з дзецьмі і гэта да такой ступені асмеліла малалетак, што некаторых даводзілася амаль сцягваць са сцэны.

Свае спектаклі „артысты" найперш паказваюць у садку — дзецям і бацькам, пасля — у іншых месцах. Некалькі разоў выступалі ў Ваяводскім асяродку анімацыі культуры, у парафіяльным доме пры Васкрасенскай царкве ў Беластоку, у Філармоніі — тры разы выступалі з п'есай на харытатыўным канцэрце. У мінулым годзе таксама ў Філармоніі на канцэрце калядак дзеці заспявалі тры калядкі. З апошнім прадстаўленнем „Як лютасць стала літасцю" дзеці ездзілі нават у Бельск, у школу н-р 3, дзе вельмі спадабаліся, а таксама ў школу ў Нарву. А неўзабаве будзе пастаўлена інсцэніроўка „Вечаркі", але цяпер ужо дзеці рыхтуюць яе не з бацькамі, а з настаўніцай.

Усё гэта гаворыць само за сябе. Няма сумнення, што зярняты, пасеяныя ў душы гэтых дзетак, дадуць плён.

Застаецца пытанне: чаму іх бацькам удалося зрабіць тое, чаго не зрабілі раней нашы дзеячы?

А таму, што яны рабілі гэта сабе. Рабілі наперакор усім перашкодам, упарта і нястомна. Колішнія ж дзеячы рабілі гэта не столькі сабе, колькі „z urzędu".

Тых людзей, якім гэта справа ўдалася і якія першыя аддалі сваіх дзяцей у беларускае прадшколле, прынамсі нельга абвінаваціць у падвойнай маральнасці.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Беларусы ў рэнесансным Кракаве

***(заканчэнне;***
***пачатак у папярэднім нумары)***

У XV-XVI ст.ст. у Кракаў прыбывалі выхадцы з Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку і беларусы. А вось храналагічны пералік прышэльцаў з Літвы, якія хутчэй выглядалі беларусамі чым літоўцамі або аселымі ў ВКЛ палякамі.

Першым „падазроным" у беларускасці ў Кракаве ўжо ў 1455 г. быў Аляксей з Літвы, паколькі ягонае імя больш шанавалася ва Усходняй царкве чым у Заходнім касцёле. Андрэй з Вільні, сын Ваўжынца, быў вінаваты яму 6 злотых, за якія даў яму ў залог чырвоны плашч і дзве лыжкі. Дваццаць гадоў пазней чыстакроўны шляхціц літоўскі і заадно гродзенскі пробашч магістр Альберт Табор прызнаўся ў Кракаве ў тым, што вінаваты ён беларускаму шляхціцу Сеньку Гарынскаму 25 злотых венгерскіх (больш вартасных за польскія, бо сапраўды былі залатыя).

Урэшце пад канец XV ст. у сталіцы Польшчы з'яўляюцца падобныя на беларусаў Ян званы Багданам, пражываючы ў Кракаве кушнер з Вільні (1491), Мацей з Драгічына, які ўпрыгожваў пергаментныя кнігі для кракаўскай кафедры (1493), а ў пачатку наступнага стагоддзя (каля 1504) — Іван, кушнер літоўскі, слуга Яго Вялікасці Караля.

У 1507-1509 гадах у ліку сведкаў у спісаваных у Кракаве дакументах выступае публічны натарыус Вацлаў з Ваўкавыска. Паводле кракаўскіх гарадскіх кніг, толькі ў 1510-1511 гадах у тадышняй польскай сталіцы жылі пры вуліцы Гродскай „літвін" Ваўрыла Леван, пры Вісльнай — Анна Руская (беларуска ці можа ўкраінка?), а ў вядомай і існуючай да сённяшняга дня „шэрай камяніцы" на Рынку — Багдан Літва. Выступалі таксама тады Якуб Мыстачковіч з Вільні і Рыгор Грэнда з Гродна, які сварыўся з Барташам з Трокаў.

У 1512 г. „літвін" Ян Шыдар з Падзамча-Кракаўскага спрачаўся з мясцовай патрыцыянкай Барбарай Чачатковай. На другі год, мабыць, беларуску Анну Рускую з Літвы цяжка пабіў Станіслаў — кравец аднаго з уплывовых кракаўскіх канонікаў. У 1516 г. мусіў ведаць нейкую славянскую мову Мікалай, „літвін", які вуступаў сведкам у спрэчцы наконт уласнасці найстарэйшай польскай песні „Багародзіца". Два гады пазней праўдападобна беларускі шляхціц Станіслаў Стэчка з Драгічына распісаўся ў кракаўскім судзе, калі браў 40 зл. запісаных яму магнатамі Кмітамі.

У гэтым жа 1518 і наступным годзе за 3 копы (180) літоўскіх грошаў ад прададзенага каня сварыўся пад Вавелем з мешчанінам кракаўскім Янам Мысліміцкім берасцейскі райца Ілья званы Аліхверысам (іншыя жыхары Брэста, якія апынуліся ў Кракаве, былі нямецкага паходжання: Шылінг, Гільман).

Здаюцца мне беларусамі Марцін Земак з Літвы (1521); віленскі грамадзянін Ян Пасковіч (1526), які ад Галеацца — італьянскага цырульніка кракаўскага біскупа пазычыў ажно 56 зл. польскіх (вартыя 14 коней); шкляр кракаўскага біскупа Мікалай, „літвін", званы Міклящам, якому цешча Янова з Кракава забрала жонку; мяшчанка з Драгічына Ядвіга (1528), якая нарадзіла сынка ад жыхара Кракава Мацея Пянчоўскага, які не схацеў з ёю ажаніцца; муратар (архітэктар) Мацей „літвін" званы Судкам (1529), які жыў у кракаўскім магнацкім двары сям'і Ёрданаў.

Да вышэйшых слаёў беларускага грамадства належалі вогінскі староста Мацей „Сглічніцкі", слуга берасцейскага старасты і маршалка Вялікага княства Аляксандра Хадкевіча (1535), каралеўскі прыдворны князь Фёдар Саламярэцкі (1538) і, мабыць, выхадзец з мясцовай шляхты каталіцкі плябан з Браслава Нікадзім Радашаўніцкі (1543-1545), які пражываў у Кракаве.

У 1549 г. у Кракаве ад мясцовага архідыякана Бартламея Гандкоўскага больш чым залатоўку ўзяў Станіслаў з Драгічына, слуга пробашча з малапольскага мястэчка Кужэлюў, якое тады было важным цэнтрам (сталіцай вялікага дэканата).

У 1571-1574 гадах шляхціц Ашмянскага павета Ян Дубіцкі спрачаўся з Ягелонскім універсітэтам за падапечнага юнака Данілу Шчасновіча, які паходзіў з Рожана або Дубнік Віленскай дыяцэзіі і якога ўрэшце Акадэмія прыняла ў лік сваіх супрацоўнікаў. Беларускія магнаты ў прынцыпе не выступалі супраць кракаўскага універсітэта, напрыклад, калі кароль Генрык Валуа 15 мая 1574 г. пацвердзіў у Кракаве акадэмічныя прывілеі, сведкамі гэтаму былі гетман літоўскі Ян Хадкевіч (не той вялікі Ян Караль!), падканцлер літоўскі Астафі Валовіч, ваявода падляшскі і ўласнік вялікіх маёнткаў у Беларусі Мікалай Кішка, падскарбі літоўскі Мікалай Нарушэвіч, маршалак прыдворны літоўскі князь Мікалай Кшыштаф Радзівіл з Алыкі, званы „Сіроткай", а таксама староста гродзенскі Аляксандр Хадкевіч. І хаця для гэтых магнатаў бліжэйшай была польская мова, аднак маёмасныя і судовыя справы афармлялі яшчэ па-старабеларуску.

**Вацлаў Урбан**
**(Кракаў — Кельцы)**

# Новы цэнтр

16 лютага г.г. урачыста адкрыўся ў Беластоку Цэнтр праваслаўнай культуры ў новапастаўленым будынку пры нованазванай вуліцы Новасасновай (побач Свята-Мікалаеўскага сабора). Як паінфармаваў сакратар епархіяльнай канцыляры а. Мікалай Падолец, мэтаю дзейнасці Цэнтра мае быць служэнне вернікам Праваслаўнай царквы, павышэнне рэлігійнай свядомасці і пашырэнне ведаў пра праваслаўе. Вось, з 5 сакавіка, у Цэнтры пачала працу Кафедра праваслаўнай тэалогіі Універсітэта ў Беластоку. Раз у месяц чытаюцца ў Цэнтры лекцыі пра ўсходняе хрысціянства. У будучыні плануецца выстаўка музейнага характару, прысвечанаю праваслаўю. З мэтай інтэгравання праваслаўнай супольнасці будзе тут таксама буфет, дзе пасля службы можна будзе выпіць чай ці каву. У будынку Цэнтра працуюць ужо Асяродак міласэрнасці а таксама амбулаторыя, дзе прымаюць м.інш. кардыёлаг і стаматолаг. **(ав)**

# Што бізнесмен робіць ноччу

Дзень прадказваўся звычайным. Затрашчаў будзільнік. Мыццё, сняданак для мужа і дачушкі, на make-up мусіла хапіць Лёлі Альховай некалькі мазкоў пэндзліка. Па дарозе на працу адвезла Арлетку ў садок (дахаты меў забраць малую муж — маці працавала, як апошнія разы здаралася ўсё часцей, на дзве змены).

У працы як заўсёды — ледзь села за касавым акенцам, пачала марыць пра пераpынак. Вочы ад касы адрывала толькі тады, каб узяць грошы і выдаць рэшту. На кліентаў не хапала ахвоты нават зірнуць. Нічога затым дзіўнага, што не заўважыла Паола.

Але італьянец звярнуў увагу на стройную касіршу, а нават дагледзеў таблічку і прыкмеціў, калі канчае яна працу. Незадоўга да закрыцця бюро стаяў з аграмадным букетам пунсовых ружаў. Лёля, якая кветкі апошні раз трымала ў руках у дзень свайго шлюбу, а ад кліентаў атрымлівала хіба што „слоўныя букеты" ланкі, ашаломленая ўзяла кевткі, не ведаючы, куды іх падзець. Спрытна выкарыстаў яе збянтэжанасць.

— Ведаеце, я зусім новенькі ў вашым горадзе, а нават у краіне, і адразу сустрэў такое мілае абслугоўванне, на еўрапейскім узроўні, — галантна сказаў наведвальнік да ўсіх у пакоі, а было тут іх шэсць супрацоўніц. — Можа, гэта з майго боку залішняя смеласць, але калі шаноўныя пані не маюць планаў на вечар, я быў бы шалёна захоплены, маючы магчымасць усіх вас запрасіць у найлепшы рэстаран у Беластоку.

Ашаломленым чыноўніцам паясніў далей, што адкрывае ў горадзе „свой бізнес", а паколькі ў яго няма ніякіх тут знаёмых, хацеў бы неяк адсвяткаваць пасяленне тутака на нейкі час. „Не маю на ўвазе нічога непрыстойнага", — паясняў галантна і элегантна.

Збянтэжаныя пані рознага ўзросту абмяняліся перапалоханымі позіркамі і ціхімі заўвагамі. Не скрыеш — незвычайнае запрашэнне вабіла, і мелі вялікую ахвоту сказаць „так". Усё ж — нейкая прыгода, магчымасць адарвацца ад штодзённшчыны! Не мусілі баяцца плётак — іх знаёмым у апошні час не было да бывання па рэстаранах, тым больш — іх аж шэсць, то хтосьці знаёмы мог і не дабачыць Паола — невысокага, саноўнага пана пад саракоўку, а ўсё спатканне палічыць юбілейным. Праблема была іншая. Хоць пры касах насілі яны халаты, усё ж апраналіся акуратна, ды не на такое „выйсце"! Італьянец развеяў іхнія сумненні — выглядалі яны ўсе „ашаламляюча"! У сапраўднасці бачыў толькі Лёлю, дзеля яе ж арганізаваў гэты цырк! Заўважыў на яе далоні абручальны пярсцёнак. Муж і дзіця? — усе на гэта тут былі багатыя, мелі сярод сябе ў бюро нават прабабку! Лёля адчувала, што цікавіць іго яна якраз, смуглявая, а не бландзінка Рэната; хоць яны, паўднёўцы, любяць бялявых. Ну, і адзенне не было праблемай — Лёля мела пад халатам „малую чорную" сукенку, у якой можна паказацца нават на кактэйлі. А такія ножкі! Можна яшчэ пахваліцца перад народам!

У дарагім рэстаране навялі крыху абслугу ў расплох, прывыклую да суперэлегантнасці гасцей. Палічылі апратку за экстравагантнасць. Жанчыны, спачатку збянтэжаныя, хутка разагрэліся, развяселеныя пацешным італьянцам, якога кашалёк, здаваўся, не меў дна. Даведаліся ў час вячэры пра яго шмат і нічога. Меў Паола нейкую вялікую фірму ў Італіі (не сказаў, чым займаецца), тут адкрываў філіял, меў намер пажыць крыху і гешэфт пакінуць для раскруткі супрацоўнікам. Дзеля гэтага наняў у Беластоку вялікую кватэру, якую з рацыі памераў нельга назваць „гарсанерай". У Італіі — прызнаўся без біцця — пакінуў жонку і сына.

Пад канец вечара былі ўжо „пачкай" сяброў. Паола заказаў і аплаціў кожнай жанчыне таксі, і толькі Лёлю — выпадкова — адвёз дадому сваім „Поршэ". Лёля была захопленая — у час дарогі дадому не заікнуўся ніякай непрыстойнасцю, хоць паглядаў лакома на вартыя ўвагі грудзі. Ужо падчас вячэры не скрываў, што знаёмства з усімі панямі будзе працягваць. І каваў жалеза, пакуль гарачае. Ужо некалькі дзён пасля Лёля з Ізай апынуліся ў яго кватэры як эксперты ад... інтэр'еру. Хоць Лёля была ў ліку асоб з „нязломнымі маральнымі прынцыпамі", у дадатак кахала свайго мужа (усё ж яго выбрала) і дзіця, не паспела аглянуцца, як была ўжо ў Паолавай кватэры без сведкаў. Нікога на працы не здзівіў „Поршэ", які чакаў пад бюро. Дбаючы пра рэпутацыю Лёлі, Паола часам запрашаў і іншых супрацоўніц на італьянскія вячэры. Жанчыны былі такія захопленыя знаёмствам, што ніводная і не падумала „зычліва" паведаміць Лёнінаму мужу, які буйна развіваючага жончынага рамана зусім не заўважыў. Часцей выходзіла з дому, пазней вярталася, затое скончыліся нараканні, што бяздарны ён, што з дыпломам сядзіць на пасадзе за 700 злотых... І была нейкая вясялейшая, і дома стала неяк прыемней — паявіліся кветкі, а гаспадыня пачала больш акуратна апранацца. Янка заўважыў перамену, але палічыў, што гэта ўплыў каляровых часопісаў, якімі захаплялася жонка.

Лёля не ўяўляла сабе, што гэтак будзе, але ўсё ж стала. Падарункі прымала як штосьці ёй належнае як жанчыне. „Я ж не прастытутка, якой плаціцца за каханне, ён жа хоча развесціся і стаць маім мужам". Паола сапраўды прапанаваў наняць добрага адваката, каб хутка правесці развод, каб Лёля, разам з дачкой, магла перасяліцца ў сонечную Італію. Прэзентаваў цудоўныя здымкі імпазантнага дома, распавядаў пра цудоўныя шанцы, якія рыхтуюцца за мяжой для будучыні Лёлінай дачкі Арлеткі. А прэзенты, дарагія, уручаў неяк так, што цяжка было адмовіцца. Аднойчы так пахаладала, што, каб каханая не мерзла ў сваім плашчыку, „ад рукі" купіў ёй футра. Мужу сказала, што гэта падарунак ад мамы. Дарагой біжутэрыі Янка нават не заўважыў, і каб хто яму сказаў, што на адным пальчыку ў жонкі сума большая за тое, з чаго ён разлічваецца ў гадавым падатку — рассмяяўся б. Палічыў бы гэта за добры жарт. Нават не прыйшло б яму ў галаву правяраць жончыны бліскучкі. Усё ж — яны такое добрае сужонства!

Лёля ў спраўднасці не ведала, што адчувае да Паола. Справу разводу адцягвала ў думках. Паола не быў фізічна прыгожы, але даваў ёй тое, аб чым муж даўно забыўся, і, што парадаксальна, у апошні час нясмела пачаў прыпамінаць, хоць бы кветкі ды кампліменты. Лёля, апроч абагатварэння, мела ў кватэры Паола нейкі супакой. Любіла працягнуцца у фатэлі, паглядзець на іншае, чым гадамі патрабуючыя рамонту іхнія „апартаменты". Чаго стаяць ля кухні, калі могуць цябе абслугоўваць? Не вельмі хацелася вяртацца да статнага мужа і дачушкі. Ну так, яны чакалі абслугоўвання...

Не давала нешта спакою Лёлі. Не раптоўна ўспыхнуўшае мужавае каханне, а праца Паола. Усё не ведала, чым займаецца каханак. Што за дзіўны бізнес, які вымагае вячэрніх і начных выездаў? Паола пытанні збываў смехам. „Не пытайся, калі ласка. Мая жонка задавала пытанні, таму і скончылася наша сужонства. Ад жонкі патрабую, каб была радасцю і аздобай". Калі гэта гаварыў, Лёля верыла, але калі заставалася адна, навальваліся на яе сумненні. Куды падзяваецца Паола ноччу? Але сяброўка развеяла іх. Падавай на развод! Чакае цябе цудоўнае жыццё ў Італіі!

Лёля сказала ўсё мужу. Паола наняў адваката. Сяброўкі ўжо бачылі сябе ў гасцях у Італіі. „Выйграла ты, Лёля, такі лёс! Бо што тут маеш — кватэру ў паўразваленай камяніцы і разбітае аўто". Пра такія дробязі, як Янка і Арлетка, не ўспаміналі.

Аднойчы Паола забег у бюро. „Слухай, «Поршэ» я перадаў знаёмаму, кватэра зачынена. «Змываюся». Паліцыя топча мне па пятках. Канчыцца разводная справа, прыязджай у Італію. Між намі нічога не змянілася. Я тут «спалены»".

— Скажы, Паола, што нарабіў... — енкнула Лёля.

— Задоўга тлумачыць, каханая. Наркотыкі, — коратка закончыў бізнесмен і тыцнуў жанчыне ў далонь скрутак стадаларовак.

— Ты што...

— Бяры. Прыязджай dеrci presto cara. Arrivederci.

**Лукаш Баравіцкі**

# Звычайныя словы

Кожнае слова непадзельна звязанае з паняццем, якое яно абазначае. Значэнне паасобных слоў складаецца ў працэсе маўлення, а некаторыя яго з'явы могуць пераходзіць з часам у мову. Ад ступені пашыранасці дадзенага слова залежыць ці будзе яно занесена ў лінгвістычныя слоўнікі — тлумачальныя, дыялектныя, тэрміналагічныя.

Аб тым, што не ўся лексіка зафіксавана ў слоўніках, пераканаўся наш чытач і карэспандэнт Сэрафін Корчак-Міхалеўскі, які ў „Ніве" ад 21 лютага г.г. на дзвюх ніўскіх старонках налічыў аж дзевяць слоў, якія не выступаюць у „Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы, выдадзеным у 1962 г. у Маскве (у ім змешчана 90 тысяч слоў). У сувязі з гэтым прапануе ён нам адкрыць рубрыку „Новыя словы" або „Дзіўныя словы", у якой тлумачылася б значэнне не зафіксаваных у згаданым слоўніку тэрмінаў. Незразумелымі яму аказаліся словы: *агулькі, хярня, кутэнь, куньпа, прач, суцехі, папраўдзе, шмоцце, каханчын*.

Ці сапраўды яны незразумелыя? Некаторыя словы пашыраны ў гаворках Беласточчыны і прымяненне іх у бытавых тэкстах зусім мэтазгоднае для паўнейшага адлюстравання апісваемай рэчаіснасці. На іх значэнне найчасцей указвае кантэкст. У выпадку неабходнасці часам даюцца дадатковыя апісальныя тлумачэнні або сінонімы. Прыведзеныя слова *кутэнь* інакш *кутніца* абазначае прамую кішку і страву, якую вясковыя гаспадыні пяклі, начыняючы кішку мясам і крупой. *Куньпа* — гэта кумпяк, *агулькі* — абрадавыя песні, а *прач* — пранік. Малаістотную справу называюць на Падляшшы *хярнёй*, а слова гэтае мае дачыненне да літары „х", якая ў кірылічным алфавіце называецца „хер" і паслужыла эўфемізмам для вульгарнай назвы інтымнай часткі мужчынскага цела. Словы *папраўдзе*, *шмоцце* зафіксаваны ў пяцітомным „Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Мінск 1977-1984), а *суцеха* — гэта сінонім *суцяшэння*. Прыналежны прыметнік *каханчын*, так як і іншыя прыметнікі гэтага разраду, утвораны ад назоўніка жаночага роду (*каханка*) пры дапамозе суфікса *-ін(-ын)*.

Мова — жывая з'ява, няспынны творчы працэс, у ходзе якога адны словы нараджаюцца, іншыя з паметкай „устарэлае" застываюць на старонках лексіконаў. Аднак усе прыдуманыя чалавекам словы немагчыма загнаць пад вокладкі аднаго універсальнага слоўніка. Таму прымяненне дыялектных слоў, якія выходзяць з паўсядзённага ўжытку, захоўваюцца ўжо толькі ў памяці старэйшых мясцовых жыхароў і хутка могуць знікнуць назаўсёды, а якія не зарэгістраваны адным ці другім слоўнікам, памагае зберагчы іх ад забыцця. А ў наш час адбываюцца значныя змяненні ў моўнай культуры грамадства і вялікай стратай было б, калі б звычайныя словы простых людзей зніклі бясследна.

**Віталь Луба**

# Цікавы час

„Каб ты жыў у цікавы час" — гэтая пагаворка-праклён добра пасуе да сённяшняй рэчаіснасці. Вакол нас дзеецца шмат цікавых, але цяжкіх спраў. Хачу заўважыць, што 1999 год будзе такім пераломным, як і 1989. Тады паў стары строй, аднак выявілася, што гэта толькі так здавалася — сапраўднае развітанне чакае нас у гэтым годзе.

Урад прыгатовіў нам многа атракцыёнаў: рэформы пенсіённага забеспячэння, адміністрацыйная і службы аховы здароўя — многа цікавых навін! Не аспрэчваю іх неабходнасці. Задумоўваюся, аднак, над тым, што нас чакае і як вытрымаем гэтыя эксперыменты на нашых жывых арганізмах. Газеты атакуюць урад за недастатковую інфармацыю пра рэформу службы аховы здароўя, а ўрад бароніцца, адказваючы, што кожнаму грамадзяніну была выслана інфармацыйная брашура. А час няўмольна ўцякае. Людзі пагубіліся зусім. У амбулаторыях чэргі, хворыя выходзяць адтуль з нічым, бо не маюць новых кніжачак. Не хадзілі за імі, бо — хворыя — не мелі сілы стаяць гадзінамі ў чэргах.

Мне здаецца, што высыланне брашур было промахам, бо многія людзі вырабілі ў сабе рэфлекс выкідання ў сметнік усіх брашур, якія пісьманосец прыносіць у паштовую скрынку. Да таго ж апошнія даследаванні паказалі, што людзі маюць клопаты са зразуменнем розных інструкцый і лістовак, напрыклад, далучаных да розных прыладаў. Дзяржава адпусціла нас з-пад сваіх апякунчых крылаў і цяпер самі мусім вырашаць пра сваю пенсію, касу хворых ці лекара. Усё залежыць выключна ад сябе самога; калі хто нечага не заўважыць або пагрэбуе, можа ўсё прапасці.

Я не тужу па колішняй звышапякунчай сістэме, аднак у гэтым патопе свабоды многія людзі адчуваюць сябе разгубленымі і ў будучыню глядзяць з боязню. Чуюцца пытанні: што нас чакае, якія будуць нашы далейшыя лёсы? Як паўсюдна чуем, бачым і чытаем у газетах, у рух ідуць гараскопы, карты ды кнігі пра нумералогію. Варожкі маюць поўныя рукі працы і багатае жніва; што ж — увайшлі мы ў эпоху Вадалея! У цяжкія і пераломныя хвіліны людзі маюць схільнасць звяртацца ў напрамку метафізікі і парапсіхалогіі. Каліс інж. Барыслаў Рудкоўскі гаварыў: „У дзяржавах, у якіх адбываюцца карэнныя змены, як у Расіі, можна высачыць вялікую папулярнасць розных духовых праваднікоў, гуру, аздаравіцеляў ды розных сектаў, а дзейнасць многіх з іх нясе вялікую пагрозу".

**Андрэй Гаўрылюк**

# Памяць пра прэзідэнта БНР

27 сакавіка 1993 г. святкавалі мы ў Гданьску ў клубе па вул. Альжбетанскай 75-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі. Як заўсёды, пра наша свята былі дадзены абвесткі ў прэсе і па радыё. Амаль як заўсёды на нашы імпрэзы прыйшлі тыя самыя людзі. На гэты раз у першым радзе побач з Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Гданьску Аляксеем Шахновічам сядзела нікому невядомая жанчына. Калі закончылася афіцыйная частка і пачалі мы ладзіць урачыстае застолле, невядомая жанчына пачала адзывацца. Тады мы з Аняй Іванюк вырашылі запытаць, што прывяло яе на наша святкаванне. Аказалася, што пра свята даведалася яна з газеты і вырашыла прыйсці. Апошні раз на такім свяце была яна ў Празе ў 1937 годзе. „Я тут маю такія здымкі, якія можа вам прыдадуцца", — сказала, паказваючы прынесеныя з сабой фатаграфіі.

Гэтая жанчына называлася Кіра Фэнц, з дому Леўта. Яе бацька быў родным братам Пелагеі — жонкі Васіля Захаркі. Пакольку Захаркі не мелі сваіх дзяцей, узялі на выхаванне — а жылі тады ў Чэшскай Празе — малую Кіру. Было гэта ў 1935 годзе. Кіра скончыла тады 1 ліпеня шэсць гадоў і дзядзька Васіль вырашыў забраць яе ў Прагу. Кіра з бацькамі жыла ў Воласаве каля Ваўкавыска. Дзядзька казаў, што дзяўчынцы лепш калі будзе вучыцца ў чэшскай школе, чым у польскай. Кіра сапраўды хадзіла ў чэшскую школу, дзядзька вазіў яе на спартыўныя заняткі ў гімнастычнае таварыства „Сокал". Спадарыня Кіра ўспамінала пра жыццё беларускай эміграцыі ў Празе, бачанае вачыма 6-8-гадовай дзяўчынкі. Памятала вершы Янкі Купалы і Францішка Багушэвіча, якія дэкламавала на пражскіх беларускіх святкаваннях. Успамінала цёцю Міню Крэчэўскую і сям'ю Ермачэнкаў, з якімі Захаркі сябравалі. Часта бывалі ў іх беларускія студэнты, якія тады вучыліся ў Празе. Спадарыня Кіра ўспамінала вельмі скромныя ўмовы, у якіх жыў Васіль Захарка ў Модржанах. Гэта былі два пакойчыкі і кухня. Захарка, каб пражыць, працаваў фізічна на цукровай фабрыцы. Кватэра, вядома, была нанятая: на гары жылі Захаркі, на нізе — Шкорпілі, якія мелі мясную краму. На жаль, Васіль Захарка нядоўга цешыўся дарагой Кірушкай. 11 жніўня 1937 года памерла яго жонка — Пелагея. Па Кіру прыехаў яе бацька і забраў дахаты на Гродзеншчыну. Вельмі тужыў прэзідэнт БНР па жонцы і Кіры. Да Кірушкі, якой не пабачыў больш, пісаў лісты: „Кепска, Кірушка, мне без цябе і цёткі. Цябе я часта ўспамінаю, а па цётцы таксама часта слёзы праліваю. Я адзін, а дзеля гэтага часта з халоднае кватэры ад'язджаю і ў халодную прыязджаю. Калі ты шкадуеш мяне та ў належны час, стары год пражані, а ў новым памаліся аб тым, каб зноў пажылі разам. Я ж буду маліцца, каб ты была здаровенькай, разумнай ва ўсім, паспяхоўнай, радаснай і шчаслівай" (23.12.1938 г.). Непакоіў яго далейшы лёс дзіцяці. Пісаў да яе бацькоў: „Напішыце, як жыве Кірушка (...). Асабліва паведаміце мяне аб поступе нашай мілай Кірушкі ў навуцы (...). Кланяйцеся ёй і горача пацалуйце яе за мяне (...). Як вучыцелька Кірушкі? Адкуль яна і якому Богу моліцца? Калі не нашаму, та будзьце асцярожны" (30.03.1938 г.).


Кіра ў форме беларускай саколкі (1930-я гады).

Дзякуючы спадарыні Кіры і яе маці Лізавеце, з дому Міклашэвіч, да сёння захаваліся здымкі і лісты Васіля Захаркі, прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1928-1943 гадах. Карыстаючыся гэтымі сямейнымі памяткамі ўдалося вярнуць памяць пра Васіля Захарку. Яго асоба згадваецца ў *Энцыклапедыі гісторыі Беларусі*, у артыкулах у „Спадчыне" і „Czasopisie". Упершыню публікаваліся здымкі і вытрымкі з лістоў, якія перахавала Кіра Фэнц. У 1987 г., калі ўпершыню пасля 1937 г. спадарыня Кіра паехала ў Прагу, адшукала на Альшанах магілу дзядзькі, аплаціла, каб магіла захавалася.

У чэрвені 1997 г. спадарыня Кіра выбіралася зноў у Прагу — на гэты раз са мной. Падрыхтавала здымкі. Я дамовілася з Міколам Івановым на месца пражывання. Мелі мы пахадзіць па Празе і паглядзець, дзе жыў Васіль Захарка, Ермачэнкі і іншыя. Дзень перад ад'ездам спадарыня Кіра пазваніла, што яе сэрца не перанясло б падарожжа і трэба ёй легчы ў шпіталь, замест ехаць у Прагу, хаця былі ўжо купленыя білеты. З таго часу хваробы пасыпаліся адна за адной — увосень 1997 г. выразалі ёй падстраўнікавую залозу. Праз год аказалася, што аб'явіўся рак печані, ад якога не было ратунку. Намаўляючы спадарыню Кіру на паездку ў Прагу з нагоды 80-х угодкаў БНР, прыйшлося пачуць сумную адмову: „У Прагу я ўжо напэўна не даеду". Дала тады здымкі, ручнікі вышываныя Пелагеяй Захарка, каб там паказаць, перадала прывітанні і прасіла запаліць свечкі на магіле дзядзькі.


*Кіра Фэнц падчас гутаркі з Вацлавам Арэшкам з „Нашай ківы" (1997 г.).*

Пасля пражскіх урачыстасцей доўга расказвала я ёй пра святкаванне, пра ўшанаванне памяці, пра аднаўленне помніка Захаркі, разглядалі мы здымкі. Спадарыня Кіра адчувала палёгку, што дажыла часоў, калі публічна можна гаварыць пра заслугі дзядзькі. Раней пра гэта баялася і ўспамінаць. Калі вярнулася ў 1937 г. маці гаварыла: „Нікому не кажы, што жыла ў Захаркі". Аднак адно здарэнне з беларускай школы, ужо пад савецкай акупацыяй, у 1939 г., калі спадарыня Кіра жыла з бацькамі на Палессі, выклікала ў ейнага настаўніка падазрэнне: „Адкуль так добра ведаеш беларускую мову?" — пытаў. „Вядома, што з дому Захаркаў, але гэтага я не магла сказаць", — паясняла мне ўжо спадарыня Кіра. У час нямецкай акупацыі жыла з маці ў Белавежы. Бацьку забілі немцы. Аднойчы немцы арыштавалі і маці. Спадарыня Кіра, тады 13-гадовая дзяўчына, даведалася пра гэтае няшчасце ад стоража, калі вярталася дадому. Параілі ёй з'ездзіць да Яраслава Кастыцэвіча. І яна паехала. Кастыцэвіч нічога ёй не абяцаў, адде пастараўся і маці выпусцілі. Пасля вайны пераехала з маці ў Быдгашч, а пасля жыла ў Гданьску, на Старым Месце. Заўсёды, ужо пачынаючы з 1993 года, бывала на нашых сустрэчах, хаця крыху недачувала. Але казала: „Прыйду, пасяджу з вамі, лягчэй мне будзе". Таму пагаварыць з ёй можна было ў хатніх, спакойных умовах. Славу здабыла сабе бульбяной бабкай, якую пякла для Фестывалю нацыянальных меншасцей. Дарэчы, кухня гэта прафесійны бок жыцця спадарыні Кіры. Маючы матуру, вырашыла ўтрымоўваць сябе і сваіх трох сыноў варачы хатнія абеды. „Бывала, прыходзіла на іх 30 асоб", — успамінала.

Сумна было глядзець як з дня на дзень памірала гэтая інтэлігентная, культурная жанчына. Свядомая свайго канца казала: „Усё гэта было не так, як мела быць". 6 лютага адышла ў вечнасць назаўсёды. У нашай памяці надоўга застанецца як чалавек вялікага розуму, які адкрыў для нас і ўсёй Беларусі асобу Васіля Захаркі — змагара за беларускую незалежнасць. І будзем мець надзею, што ўрэшце на тым свеце споўніцца сон яе дзядзі Васі ад 1938 г., які апісаў ёй у лісце: „Мне як та снілася, што я прыехаў да цябе на прыгожым аўцяку і прывёз табе многа, многа падаркаў. А старыя людзі, троху старэйшыя ня толькі за Цябе, але і за мяне, кажуць, што сны падчас збываюцца, асабліва тыя, якія сняцца пад раніцу. Ну, а мой сніўся так — сярод ночы. Тут ты ўжо сама падумай, можа ці не можа ён збыцца. Канешна, збудзецца. Вось тагды мы зноў так, як у Мадржанах, будзем з табою лётаць на небе, плаваць пад вадой і прыручаць дзікіх сабачак, конікаў, каровак ды авечак на зямлі. Заглянем, канешна, у лес".

**Лена Глагоўская**

# Дзве Марусі, ці „Пра Русь Белую і Чорную яшчэ раз"

Раз у два тыдні Кафедра беларускай культуры пры Універсітэце ў Беластоку наладжвае навуковыя сустрэчы — „Беларускія чацвяргі". У іх могуць браць удзел не толькі студэнты, але і ўсе, хто цікавіцца праблемамі беларускай культуры.

Я ўжо даўно выбіралася на такі вечар, але ўсё ніяк не выходзіла. Вядома, трэба пільнаваць перш за ўсё таго, з чаго ясі хлеб. Значыцца, экзамены і залікі важнейшыя. Але ж не адно хлебам чалавек сыты, дык 25 лютага я ўсё ж знайшла час, каб паслухаць даклад доктара Алега Латышонка „Пра Русь Белую і Чорную яшчэ раз". Тэма гэта мяне заінтрыгавала.

Я была ўпэўнена, што на такія навуковыя дыскусіі прыходзіць шмат людзей, тым больш, што адбываюцца яны пасля поўдня. А палове чацвёртай сабралася семнаццаць асоб. Сярод іх было найбольш выкладчыкаў універсітэта і мінскі вучоны прафесар Генадзь Цыхун, які выкладае ў Беластоку. Былі таксама тры журналісты і маці дакладчыка. Студэнтаў было трое: хросны сын Алега Латышонка з сяброўкай і я. Усё адбывалася ў невялікай аўдыторыі ў канцы калідора. У мяне на душы пасмутнела.

Даклад доктара Алега Латышонка, аднак, мяне зацікавіў. Праўда, не ўсё мне было зразумела. Высветлілася, што „Беларусь" гэта вельмі складаная назва. Да сёння вучоныя спрачаюцца наконт этымалогіі гэтага слова. Дакладчык прэзентаваў розныя спосабы інтэрпрэтацыі. Ламанскаму Белая Русь асацыіруецца са свабодай, Крапівіну — з белай вадою, Іванову — з заходнімі землямі Русі і г.д.

Праўду кажучы, праз гадзіну я сцвердзіла, што ўсё ў мяне ў галаве памяшалася. Цяжка было зразумець, якая з прадстаўленых дэфініцый найбольш верагодная. Палягчэла мне, калі я заўважыла, што не толькі я не разумею ўсяго да канца. Сядзеўшая побач са мною Ніна Андрасюк, навуковы супрацоўнік універсітэта ў Беластоку, калі выкладчык гаварыў аб „дзвюх Малых Русях", пажартавала: „Дык былі дзве Марусі..."

Усё ж такі многае з даклада было для мяне новае і цікавае. Даведалася я, напрыклад, што „Беларусь" гэта назва вельмі старая, мяркуюць нават, што ёй ужо можа быць 1200 гадоў. Факты з даклада маглі б зацікавіць не аднаго гісторыка, а што ўжо гаварыць пра тое, як прыгадзіліся б яны студэнтам філалогіі і гісторыі. Шкада, што іх не было.

Найбольшы ўдзел у дыскусіі ўзяў прафесар Генадзь Цыхун. Рэшта амаль маўчала — ці таму, што ўсё было ясна, ці наадварот — не ведала, аб чым дыскутаваць. Калі б было больш спецыялістаў, было б больш падстаў да дыскусіі.

Добра было б, каб „Беларускія чацвяргі" пры Кафедры беларускай культуры сталі пастаяннай пазіцыяй у беларускім культурным краявідзе Беласточчыны.

**Анна Артэмюк**

# У тэатры А. Вянгеркі

З нагоды Міжнароднага дня тэатра ў Беластоцкім драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі Паўшэхны тэатр — тэатр Мантоўня з Варшавы паставіць спектакль „Śleboda czyli cenniejsi jesteście niż wróble" паводле падгалянскіх аповесцяў Казіміра Пшэрвы-Тэтмаера. Рэжысёр — Вальдэмар Сьмігасевіч, сцэнограф — Мацей Праер, музыка Кшэсіміра Дэмбскага.

Спектакль адбудзецца ў нядзелю 28 сакавіка 1999 года, а 19-й гадзіне. Будзе шмат фальклору гураляў і разважанняў наконт розных аспектаў „ślebody", г.зн. свабоды, вольнасці. Не забракне гуральскай гаворкі, мо не заўсёды добра зразумелай беластачаніну, але тым самым цікавейшай.

Ахвотных паглядзець спектакль і адзначыць Міжнародны дзень тэатра сардэчна запрашае дырэкцыя тэатра А. Вянгеркі.

**(ач)**

# Погляды

17 лютага г.г. (серада) быў звычайным рабочым днём, аднак людзі сядзелі перад блакітнымі экранамі сваіх тэлевізараў і ўважна прыглядаліся і прыслухоўваліся перадачы з парламента, дзе разглядалася справа ўступлення Польшчы ў НАТО. Амаль усе, так правыя, як і левыя, былі згодныя і без асаблівых спрэчак адобрылі новае членства. Я ў той час разносіў пошту па хатах і пераканаўся, што нашы людзі неабыякавыя да палітычных спраў. Пераступіў я парог аднаго паважанага ўсімі чалавека з суседняй вёскі, які таксама глядзеў тую перадачу. Пасля прывітання я спытаў яго, навошта Польшча пнецца ў тое НАТО, якія кошты гэтага і хто на нас збіраецца нападаць? Расія ж на нас таксама ніколі нападаць не будзе...

Той разумны чалавек глянуў на мяне і сказаў: Пане Мікалай, у нас сёння пагроза толькі з усходу. Не думайце, што ў нашым урадзе ўсе дурныя; ёсць разумныя, якія расійскі дух дасканала ведаюць і таму падпісалі той дагавор і правыя, і левыя. У Расіі, — гаварыў далей ён, — запанавала адно зло, выгадаванае бальшавікамі: варожыя адносіны да чалавека і яго душы. Там, у Расіі, адно зладзейства, дзікі атэізм, п'янства, мафіі, забойствы і гультайства як нідзе і, на жаль, камуністы там надалей правяць ва ўсіх важнейшых установах. І калі, не дай Бог, у будучым годзе прэзідэнтам Расіі стане камуніст на падабенства Зюганава, тады Польшчу, калі яна не будзе ў НАТО, яны разарвуць на кавалкі і то хутка. У Расіі народ паслушны на кожны імперыяльны кліч; у апошнюю вайну крычалі „За Родину, за Сталина!", а цяпер будуць крычаць „За Родину, за Зюганова!" ці за іншага лайдака. А тактыка камуністаў такая, каб закабаліць народ, а самім жыць як у раю. І сёння ім найлепш, бо ўсе заходнія крэдыты ідуць проста ў іхнюю кішэню. А на тое, што народ цярпіць, ёсць „віноўныя": прагрэсіўныя сілы. І бальшасць, выгадаваная бальшавікамі, бальшавікам і верыць. Праўда, ёсць і мудрыя, добрыя людзі, аднак іх меншасць. Расійскі народ, гэта ўжо не той, які быў пры царах...

Нельга не згадзіцца з высновамі гэтага мудрага чалавека, які рускіх добра ведае і часта бывае у іх краіне і ніколі не быў, так як і я, ворагам рускага народа. Крыўдна пісаць такую горкую праўду пра нашых суседзяў, якія пажынаюць сёння тое, што сеялі на працягу сямідзесяці гадоў.

**Мікалай Панфілюк**

# Чыноўніцкае галавацяпства



Тры гады высокія засохлыя таполі пагражалі жылому будынку, які належыць Гміннай управе ў Орлі. Аднак адміністратары не пераймаліся гэтым пакуль адно дрэва пры бязветраным надвор'і не звалілася на дом.

У згаданым будынку здымае кватэру ветэрынар Юзэф Бжана, які ўжо ў 1996 г. паведаміў Гмінную ўправу, што засохлыя таполі пагражаюць бяспецы кватарантаў і дрэвы неабходна высечы. „Прапанаваў я Управе, — сказаў ён, — што за драўніну сам ссяку сухастой і зраблю новыя насаджэнні. Чыноўнікі, аднак, патрабавалі заплаціць па 60 зл. за кубаметр трухлявай таполі і я адмовіўся ад гэтай здзелкі".

Юзэф Бжана неаднойчы паведамляў гмінную адміністрацыю пра небяспеку, але ягоныя папярэджанні звычайна ігнараваліся. Восенню 1998 г. каля тапаляў з'явіліся двое рабочых, адкруцілі некалькі шрубак пры агароджы з сеткі, на якую стала хіліцца дрэва і... больш сюды не заглянулі.

12 лютага каля шаснаццатай гадзіны адна тапола ўпала на дом, разбіла адно акно і павісла на даху. Юзэф Бжана аб выпадку неадкладна паведаміў войта і сакратара гміны, але паколькі быў гэта пятнічны вечар, а наперадзе — два выхадныя дні, экіпа рабочых з'явілася толькі ў панядзелак.

У гэтым будынку, таксама ў пятніцу але чатыры гады таму, ад 20-градуснага марозу лопнуў на даху паржавелы рэзервуар і тысяча літраў вады ўлілася ў жылыя памяшканні. У чыноўнікаў тады таксама былі выхадныя дні і кватаранту самому прыйшлося ратавацца ад паслядоўнасцей катастрофы, хаця ў гэтым жыхарам павінен дапамагаць уласнік будынка.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Лепшыя і горшыя помнікі

Нядаўна даведаўся я па радыё, што беластоцкі пасол ад АВС Юзэф Мазалеўскі праявіў ініцыятыву ўстанавіць у Беластоку помнік пад назвай „Катынская панарама" для ўвекавечання памяці польскіх афіцэраў, загінуўшых у савецкім палоне. На маю думку, гэты помнік павінен быць узведзены ў цэнтры горада, на ўзгорку паміж універмагам „Цэнтраль" і Беластоцкім універсітэтам, але пад адной умовай: іншых помнікаў пры гэтай нагодзе разбураць нельга!

Хацелася б мне таксама, каб пасол Мазалеўскі праявіў ініцыятыву і ў справе помніка на брацкай магіле вазакоў у Бельску. Прыпомню, што ваяводскія адміністрацыйныя ўлады не дазваляюць Камітэту сем'яў памардаваных вазакоў устанавіць помнік на магіле беларускіх фурманоў праваслаўнага веравызнання, якія былі забіты ў 1946 годзе польскім падпольным атрадам. Чым тлумачыць адмову ваяводскіх улад: веравызнаннем бязвінных ахвяр ці мо непрыхільнасцю былых жаўнераў АК — цяпер уплывовых ветэранаў? Бязвінна праліта́я кроў заслугоўвае аднолькавай пашаны, няглядзячы на нацыянальнасць ці веравызнанне ахвяр. Таму нельга адны помнікі лічыць лепшымі, важнейшымі, іншыя — нявартымі чыноўніцкай увагі. Варта, каб паслы АВС пасадзейнічалі і „Катынскай панараме", і помніку вазакам на могільніку ў Бельску. Аднак на апошняе спадзявацца цяжка, бо ў нас стаўленне кіраўнікоў ваяводства да беларусаў, мякка кажучы, непрыхільнае.

**М. Л.**

# Закон ёсць закон

Статыстыкі паказваюць, што амаль трыццаць пяць працэнтаў дарожных аварый у маштабе краіны здараецца па прычыне нецвярозых шафёраў. Бязвінныя людзі гінуць або становяцца інвалідамі. Няўжо няма ратунку ад дарожных піратаў? Прафілактыка, як дагэтуль, не дае рэзультату. Не палохаюць аматараў кілішка адміністрацыйныя і судовыя пакаранні ды забіранне ім шафёрскіх правоў. Мне здаецца, што праблему можна рашыць, а прыклад можна ўзяць з нью-йоркскага бурмістра, які дазволіў паліцыі канфіскаваць аўтамабіль п'янаму шафёру. У ЗША ў дваццаці двух штатах закон прадбачвае адабранне ў злачынцы прылады злачынства, а ў выпадку шафёра з'яўляецца ёю машына.

На рэзультат не трэба было доўга чакаць. Ужо пасля паўтарамесячнага ўступлення закону ў сілу трапілася першая ахвяра. Паліцыя затрымала п'янага шафёра. Не памаглі тлумачэнні жартаўніка, што ён выпіў толькі піва. Ахоўнікі правапарадку былі няўмольнымі: закон ёсць закон. Такім чынам шафёр за адзін праміль алкаголю страціў новенькую „Хонду".

Трэба адзначыць, што ахвярай ньюйоркскага закону стаў паляк, які пастаянна пражывае ў ЗША. Няўжо язда пад мухай становіцца польскай нацыянальнай спецыяльнасцю?

**Уладзімір Сідарук**

# Вер — не вер

Астроне! Снілася мне, што нейкія тры мужчыны сярэдняга ўзросту капалі студню. Гэта мела быць вельмі важнае — ці для нашага прыроднага асяроддзя, ці людзей. Думаю: трэба ж іх чымсьці пачаставаць, даць абед, бо, напэўна, яны стаміліся, а вартыя гасціны. Не памятаю, ці я іх запрасіла, бо ў гэты момант я прачнулася.

**Зіна**

Мне, Астроне, ужо трэці раз сніцца, што я вяртаюся да першага мужа. Я ўжо ў яго. Задаволеная, шчаслівая. Муж налупцаваў сына. Малы плакаў. Прыйшла мая мама, а я кажу: хадзіце, спячэм пірог, будзе яшчэ файней. Было гэта чамусьці ў доміку, а не блёку, у якім жыве мой першы муж. Будзь з ім, кажа мама. Глянула яна пры гэтым на маё падбітае вока і кажа: усё будзе добра. Шчаслівая, я прачнулася. Астроне, не ведаю, чаму мне сняцца ўсё сны, звязаныя з маім першым мужам. Я ж ужо другі раз выйшла замуж і, здаецца, жывем мы някепска. Як ты мог бы растлумачыць мне гэтыя сны?

**Нюрка**

Зіна! Студня, яна наогул гаворыць пра тое, што будуць поспехі ў гаспадарцы. Праўда, гэту студню людзі ўсяго яшчэ капалі, дык можна было б меркаваць, што чакае цябе сумленная і цяжкая праца, але з яе, бадай, вынікне для цябе нейкая карысць.

Што датычыць тваіго, Нюрка, сну, дык гаворыць ён аб тым, што ты, хаця выйшла другі раз замуж, то сэрцам і думкай, бадай, з першым мужам. І вось табе ўсё сніцца, што ты вяртаешся да яго, хаця ў гэтым ужо няма ніякай логікі.

Зразумела, што твой сон гэта перапевы фактаў з тваіго жыцця з першым мужам. Аднак жа некаторыя яго элементы маюць асаблівае значэнне. Напрыклад, твой былы муж налупцаваў сына, а ты мела падбітае вока, а біць чалавека ці жывёлу ў сне — кепска. Прадвяшчае гэта нейкую страту, хваробу, смутак. Я быў бы гатоў меркаваць, што справы будуць датычыць нейкай фінансавай страты. Бачыш, ты яшчэ збіралася пячы пірагі, а пірагі яны сведчаць аб беднасці, аб патрэбах.

**Астрон**



**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Міраповіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Не шанцуе з гэтай лічбай 25 — сакавік, лістапад...*

Мал. Алега КАРПОВІЧА

# Кароткі курс параноі

**Песняры і акрабаты**

Як паведаміла *Алеся*, славуты ансамбль „Песняры" згубіў агульную мову з кіраўніком і заснавальнікам, і вырашыў самастойна выступаць пад старой шыльдай, але без бацькі Мулявіна. Яшчэ і бацькаву жонку самастойнікі абвінавацілі: „Каб яе і блізка каля нас не было!"

Вось які бон тон! Якая адплата за славу. Сталі вялікімі — і бацька лішні. Ну, а пры чым тут „маці"? — спытаеце. У гэтым і загвздка. Цікава, куды пакіруе Мулявін?

Жанчына ўжо вывернула дагары нагамі пяснярскую славу Леаніда Барткевіча (спяваў „Алесю"). Гэты трук зрабіла знакамітая гімнастка з Гродна Вольга Корбут. Заманіла песняра ў мужы і вывезла ў Амерыку на долараваую пашу. Жывуць у Атланце. Вольга працуе ў гімнастычнай акадэміі, а Леанід перакваліфікаваўся, стаў менеджэрам фатаграфічнай кампаніі. Перакваліфікаваўся ў ЗША і сябар Барткевіча, таксама былы пясняр Анатоль Кашапараў („Волагда") — выпякае на Фларыдзе піцу.

Серыял з трывожным хэпіэндам. У Амерыку перабраўся і знакаміты беларускі гімнаст Віталь Шчэрба. Там у яго нарадзілася дачка. Яна — грамадзянка ЗША, а бацька — грамадзянін Беларусі. Ён за акіянам адкрывае сваю гімнастычную школу, а душа ў Мінску. Беларуская душа! У Мінску ў Шчэрбы ўкралі два аўто і абрабавалі кватэру, і хто абрабаваў — самы лепшы ягоны сябар, чэмпіён Еўропы па гімнастыцы Мікалай Ціхановіч.

Не зважаючы на кашмар, Шчэрба думкамі рвецца ў Мінск. А мо ён хоча толькі праведаць у турме сябра? Таксама клас.

Віталь + Коля = мазахічнае сяброўства.

**Спісаў і падагуліў**
**Сідар Макацёр**

***Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:***

**Да...**

Алеся, Алеся, Алеся!
Калі маеш клёку хоць троху,
Калі ты яшчэ на Палессі —
Глытай цэзій, трывай! Алёха.

Даспяваўся і „Волагда" Толя,
Гераічну пакінуў сталіцу,
Увасобіўся ў новую ролю —
У Амерыцы смажыць піцу.

Ах, Віталь! Тонкаструнная Воля!
Беларусь, што з табою? Ачніся!
Хутка слава і лепшая доля
Толькі ў снах табе будзе сніцца.

<u>Фрашкі пра нашых</u>

## *Касі каса, пакуль...*

Грып — без сэрца, усіх паваліць,
Ці ты просты, ці з эліты,
Звалі так цябе, як звалі,
Для віруса — смакавіты.

Ды чамусьці не да смаку
Лекар сам, або настаўнік,
Што страйкуе! І ні знаку
Ад уколу. Каса — яўнай.

А ля касы — той бліжэйшы,
Ў каго дзядзька адпаведны.
Маеш грошы — здаравейшы.
Ты чаго хварэеш, бедны?!

**Вандал Арлянскі**

<u>Пародыі</u>

## *Сцяна*

*Не вер ва ўсё, што бачыш.*
*Ты не станеш ім.*
*Не апынешся паміж людзьмі —*
*Надта доўга жывеш у сцяне.*

***Ірына Радзіванюк***

Ты гукаў і шукаў мяне,
Ты чакаў са мною спаткання.
А я доўга жыла ў сцяне,
І сцяне аддавала каханне.

А сцяна халоднай была,
А сцяна мяне не кахала.
Там заўжды не было святла,
І стала, за якім я пісала.
Я пісала на цёмнай сцяне,
І рамансы пісала, і байкі.
І ніхто больш не бачыў мяне,
Толькі чула, як брэшуць сабакі.
Яны ноччу брахалі гучней,
Ды мяне у сцяне не кусалі...
Падкажы, каб ад злых вачэй
Нас з табою замуравалі.

**Сяргей Чыгрын**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. небяспечная ў апошнім часе членістаногая жывёліна сямейства павукападобных, 4. плач па нябожчыку, 6. старажытнафінікійскі бог сонца, сімвал ненасытнасці, 7. Фахрудзін Алі, прэзідэнт Індыі ў 1974-77 гг., 9. вялікая пакістанская рака, 11. сталіца Тайланда, 12. ганьба, 13. не май столькі рублёў, толькі столькі сяброў, 15. прыстасаванне для сотаў у вуллі, 17. пахавальны белы ўбор, 18. Дзмітры, аўтар зборніка паэзіі „Маё Падляшша", 19. водны раствор солей.

**Вертыкальна:** 1. Джордж, амерыканскі кампазітар (1898—1937), 2. бакал, 3. кітайскі горад на рацэ Сянцзян, адміністрацыйны цэнтр правінцыі Хунань, 4. паўлегендарны правіцель шумерскага горада Урук, 5. Мікола, аўтар кнігі „Старажытная Беларусь" (нар. у 1921 г.), 6. Абрахам дэ, англійскі матэматык (1667—1754), 8. узорысты выраб, якім усцілаюць падлогу, 9. невядомая ў матэматыцы, 10. грунт пад вадой вадаёма, 14. сталіца Грузіі, 16. піша кнігі, 17. частка агнястрэльнай зброі, праз якую праходзіць снарад.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 6 нумара**

**Гарызантальна:** бяльмо, Электра, здрада, манерка, ракако, султан, адмірал, Хайфон, Страбон, Кавалі.

**Вертыкальна:** тэрмас, Бернал, старка, базар, лірык, медык, Аомары, аэробы, Окленд, ураса, тафта, Нансі.

Рашэнне: **Сымон Будны**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У бар убягае малады мужчына і хутка выпівае куфаль піва.

— Слухайце, — звяртаецца да прысутных, — я кахаю, і мяне кахае!..

— Віншую, — адзываецца бармен.

— Няма чаго віншаваць, — адказвае маладзён, — гэта дзве розныя жанчыны.

* * *

— Сёння будзе неспадзяванка, — гаворыць ён. — Тваю маму папрашу твае рукі.

— Самы час! Яна ўжо ад трох тыдняў штодзень апранае новую сукенку на гэту падзею.

* * *

Дачка паведамляе маці, што прыняла прапанову і збіраецца выходзіць замуж.

— Не раю табе, — адказвае без энтузіязму маці. — Мужчыны нічога не вартыя; лепш ужо ў старых дзеўках астацца.

— Дык чаму ж ты не асталася?

— Зрабіла гэта выключна з увагі на любоў да цябе.

* * *

— Хацеў бы я цябе спытаць, ці не выйшла б ты за мяне замуж?

— А я ўжо думала, што хочаш запрапанаваць мне пайсці ў кіно.

* * *

— Маруся, пан Грыша папрасіў тваю руку, але са шлюбам трэба будзе пачакаць, пакуль твая старэйшая сястра не выйдзе замуж.

— Гэта непаслядоўна: я, як малодшая, заўсёды першай ішла ў пасцель.

* * *

— Ведаеш, — кажа муж жонцы, — сёння руку нашай дачкі папрасілі багаты бізнесмен і малады ўрач...

— І да каго ўсміхнулася шчасце?

— Да лекара: выбрала бізнесмена.

* * *

— Андрэй, ці ты мяне помніш? Тры гады таму ты прасіў мяне, каб я выйшла за цябе замуж.

— І што: выйшла?

* * *

Маці ўваходзіць у пакой і бачыць, што нарачоны б'е яе дачку.

— Бойся Бога! — дакарае яго. — Паводзіш сябе так, быццам вы былі ўжо пасля вяселля.

* * *

— Бармен! У маім піве муха.

— Не будзьце такі педанцкі: многа ж яна вам не вып'е.